ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

28 ЛЮТАГА 2003 г. № 9/4195 КОШТ 510 РУБ.

АНОНС!

**МЫ — БЕЛАРУСЫ!**

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

*У «люстэрку часу» — Елізар'еў*

11




*Чым Каін забіў Авеля?*

Адказ на пытанне ведае Алесь Пісьмянкоў

13



ВЫДАННЕ




# ЧУЖЫЯ ДЗІВОСЫ ЧАРУЮЦЬ, СВАЕ — ГОЯЦЬ ДУШУ...

*"Экзотыка... Мы чуем гэтае слова,*
*і камусьці ўяўляюцца нетры Амазонкі,*
*а хтосьці бачыць*
*непальскія або тыбецкія вяршыні.*
*А я называю свой альбом*
*"Беларуская экзотыка",*
*бо ведаю, што і наша зямля*
*для жыхароў*
*шмат якіх замежных краін*
*неверагодна цікавая..."*

Фота Сяргея ПЛЫТКЕВІЧА

глядзіце на стар. 14

# ТАМ ПЕСНІ ЖЫВЫЯ АЙЧЫНЫ

*Паэт Хведар ГУРЫНОВІЧ*
*жыве і працуе ў Салігорску.*
*Пра мастака,*
*нястомнага падарожніка,*
*паляўнічага —*
*у нататках*
*Уладзіміра САЛАМАХІ*

чытайце на стар. 4-5



Хведар ГУРЫНОВІЧ

## КОЛА ДЗЁН

***У Маскве адбылася сустрэча прэзідэнтаў Беларусі, Расіі, Украіны і Казахстана. У нядзелю, пасля ўскладання гірлянды кветак да магілы Невядомага салдата, прэзідэнты чатырох краін правялі прэс-канферэнцыю, дзе заявілі аб сваім рашэнні вывесці ўзаемнае супрацоўніцтва на новы ўзровень. Канчатковая мэта — стварэнне Арганізацыі рэгіянальнай інтэграцыі. Да верасня павінна быць падрыхтавана чатырохбаковае пагадненне аб стварэнні адзінай эканамічнай прасторы, узгодненай эканамічнай палітыцы, гарманізацыі заканадаўстваў, якія рэгулююць узаемаадносіны ў эканамічнай сферы.***

*АДНАЎЛЕННЕ ТЫДНЯ*

20 лютага на пасяджэнні Пастаяннага камітэта ПА АБСЕ, якое адбылося ў рамках зімовай сесіі Асамблеі, што адкрылася ў Вене, было адноўлена членства Нацыянальнага сходу Беларусі ў Парламенцкай Асамблеі АБСЕ.

*ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ*

Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь 2003 год аб'яўлены ў нашай краіне Годам парадку і добраўпарадкавання. У мэтах правядзення сістэмнай работы па рэалізацыі пастаўленых у гэтым накірунку задач Распараджэннем Прэзідэнта ад 19 лютага створана адпаведная камісія, старшынёй якой назначаны прэм'ер-міністр Генадзь Навіцкі. Камісіі даручана распрацаваць і да 1 сакавіка 2003 года забяспечыць зацвярджэнне праграмы правядзення Года парадку і добраўпарадкавання. Вынікі выканання праграмы будуць штоквартальна дакладвацца кіраўніку дзяржавы.

*ПЛАН ТЫДНЯ*

Урад нашай краіны адобрыў праект Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб зацвярджэнні генеральнага плана Мінска з прылеглымі тэрыторыямі ў межах гарадской рысы". Цяпер у сталіцы, згодна з перапісам насельніцтва, жыве 1 мільён 712 тысяч 600 чалавек. Аналіз дэмаграфічнай сітуацыі паказвае, што да 2030 года ў Мінску будзе 1 мільён 900 тысяч насельніцтва. Горад будзе будавацца кампактна, але разлічана, што яго плошча павялічыцца з 230 квадратных кіламетраў да 318. Генеральным планам прадугледжаны пераарыентацыя працоўных рэсурсаў, павелічэнне жыллёвага фонду, пашырэнне сферы абслугоўвання.

*НАПАМІН ТЫДНЯ*

У сувязі з тым, што вызначаны тэрмін прадстаўлення дэкларацыі (1 сакавіка) сёлета прыпадае на суботу, то канчатковы тэрмін падачы дэкларацыі пераносіцца на 3 сакавіка ўключна. Па стане на 10 лютага ў падатковыя інспекцыі нашай краіны было пададзена 34 тысячы 151 дэкларацыя. Нягледзячы на тое, што 3 сакавіка не за гарой, ажыятажу асаблівага сярод падаткаплацельшчыкаў няма. І гэта дзіўна, бо летась грамадзянамі краіны па выніках 2001 года ў падатковыя інспекцыі было пададзена 298 тысяч дэкларацый аб сукупным гадавым даходзе.

*ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

Па звестках Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання ў нашай краіне налічваецца 2396 фермерскіх гаспадарак. Іх найбольшая колькасць зарэгістравана ў Мінскай (527) і ў Віцебскай абласцях (476). На Брэстчыне — 401, Магілёўшчыне — 361, Гомельшчыне — 330, Гродзеншчыне — 301. У сярэднім на кожную фермерскую гаспадарку прыпадае 46 гектараў зямлі.

*КОНКУРС ТЫДНЯ*

Рэспубліканскае ТА "Інфармацыйнае грамадства" і аргкамітэта Міжнароднай спецыялізаванай выставы па тэлекамунікацыях і інфармацыйных тэхналогіях "ТІВО" абвясцілі рэспубліканскі конкурс на лепшы Інтэрнэт-сайт. Заяўкі на ўдзел прымаюцца да 15 сакавіка. Конкурс будзе праходзіць па 17 намінацыях: дзяржаўныя органы; СМІ; адукацыя і навука; электронныя бібліятэкі і каталогі; культура і мастацтва; медыцына і фармацэўтыка; спорт і інш. У прафесійнае журы, якое ўзначальвае намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч, уваходзяць журналісты, дызайнеры, вэб-майстры, прадстаўнікі Інтэрнэт-кампаній.

*ЗАЯВА ТЫДНЯ*

Старт расійскай кампаніі па выбарах прэзідэнта Расійскай Федэрацыі будзе дадзены 10 снежня 2003 года, а выбары пройдуць 14 сакавіка 2004 года. Пра гэта заявіў кіраўнік Цэнтрвыбаркама РФ Аляксандр Вешнякоў. Першы тур прэзідэнцкіх выбараў-2004 будзе каштаваць 3,5 мпрд. расійскіх рублёў — на 40 працэнтаў даражэй, чым папярэднія.

*ФІКСАВАННЕ ТЫДНЯ*

Спецыялістамі Усерасійскага НДІ Тэлерадыёвяшчання на расійскіх тэлеканалах, якія транслююцца на нашу краіну, зафіксаваны схаваныя так званыя 25-я кадры. У асноўным яны змяшчалі рэкламу накшталт "Глядзіце толькі наш канал", але эксперты фіксавалі і іншую інфармацыю, якую нельга назваць бяскрыўднай.

**ПАЧАЛАСЯ ПАДПІСКА НА II КВАРТАЛ**

Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на II квартал 2003 года. На "ЛіМ" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на квартал — 7500 рублёў.

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 4000 рублёў, на квартал — 12000 рублёў.

**Ведамасны індэкс — 63857.**

ЮБІЛЕІ

# І СЭРЦУ ЛЮБЫЯ ПРАСТОРЫ...

*Віктару ГРАМЫКУ 80 год. З гэтай нагоды ў Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава, прысвечаная гэтай падзеі.*





На выставе экспануюцца шэраг твораў майстра і работы апошніх гадоў, з якімі публіка яшчэ не знаёма. Віктар Аляксандравіч з ліку тых творцаў, якія ў 60—70-я гады стварылі беларускаму жывапісу славу не толькі на абсягах Савецкага Саюза, але і за яго межамі. Віктар Грамыка, як і многія іншыя прадстаўнікі ягонага пакалення, прысвяціў сваю творчасць нашай нацыянальнай тэме — Вялікай Айчыннай вайне. Яму, падпольшчыку і салдату, было што ўспомніць, было што сказаць маладзейшым. Другая іпастась ягонай творчасці — краявід. Ён увасобіў нетрадыцыйны погляд на зямлю беларускую. "Край лясоў і балот" — чуем мы звычайна. "А яшчэ край пагоркаў і блакітных азёраў" — нібыта дадае мастак. Пабачыць краявід такім, як малюе яго Віктар Грамыка, можна з вакна гмаха на гарадской ускраіне альбо з самалёта. Таму можна сказаць, што "нетыповы", а можна прыгадаць, што менавіта такі погляд уласцівы людзям XX (а цяпер ужо і XXI) стагоддзя не толькі ў фізічным, але і ў філасофскім сэнсе. Мы ўспрымаем зямлю не фрагментарна, як нашы продкі, якія маглі ўсё жыццё не патрапіць за межы вёскі альбо мястэчка — а глабальна як фізіку космасу. Гэта адчуў мастак, гэта ён увасобіў на палотнах. Неабходнасць падзяліцца з маладейшымі думкамі пра вечнае, адкрыла яшчэ адзін талент мастака — літаратурны. Ён аўтар аўтабіяграфічнай кнігі "Радуга над дорогой". Дарэчы, зараз Віктар Аляксандравіч піша яе працяг.

**П. В.**

ВЫСТАВЫ




# «МІНСКАЯ МІЖНАРОДНАЯ ВЫСТАВА-КІРМАШ-2003»

З 25 па 27 лютага ў нашай краіне праходзіла Мінская міжнародная выстава-кірмаш-2003. У ёй удзельнічала каля 300 фірм, якія займаюцца выданнем і распаўсюджваннем кніжнай прадукцыі. Акрамя беларускіх удзельнікаў, у ёй прысутнічалі выдавецтвы з Расіі, Украіны і іншых краін. На другі дзень работы кірмашу ў кніжным магазіне "Светач" адкрыўся аддзел украінскай кнігі.

*НА ЗДЫМКАХ: моманты адкрыцця Мінскай міжнароднай выставы-кірмашу-2003.*

***Фота К. ДРОБАВА***






***У "ЛіМе" ад 11.10.2002 г. аддзел крытыкі штотыднёвіка ўзняў пытанне аб стане душы беларускіх пісьменнікаў, пры гэтым даючы ім і такую характарыстыку, маўляў: "Надта ж сцішана жывём, мляўка пішам, неахвотна чытаем, абыякава адгукаемся..."***

# «БАЛЬМОНТ... У ВУСНАХ КАЛГАСНІКАЎ»

Як вядома, стан душы чалавека найперш вызначаюць умовы яго жыцця. Сёння беларуская літаратура застаецца амаль што адзіным выразнікам беларускай культуры і тоеснасці народа ў самым галоўным — у мове. Калі паглядзець каналы нацыянальнага тэлебачання, прагартаць двухмоўныя дзяржаўныя і недзяржаўныя выданні, зазірнуць у шапікі "Белсаюздруку", прыслухацца да гаворкі на сталічных вуліцах, то складваецца ўражанне, нібыта на Беларусі ўжо амаль не засталося беларусаў. І, зразумела, што людзям, для якіх беларуская мова — справа і сэнс жыцця, бачыць такое вельмі балюча. А шматгадовы боль стамляе, робіць чалавека млявым і абыякавым. Сапраўды, думаеш, каго зацікавіць млява напісанае?

Адказы пісьменнікаў на пытанні штотыднёвіка, надрукаваныя ў гэтым нумары, таксама падаюцца даволі млявымі. Толькі аднойчы, напрыклад, Анатоль Аўруцін крыху ажыўляецца, калі піша: "Крыўдна, што названыя прозвішчы (рускамоўных пісьменнікаў. — **Э. С.**) мала што гавораць беларускаму чытачу — мясцовая крытыка не звяртае ўвагі на гэтых аўтараў. А вось у *Саюз расійскіх пісьменнікаў* Н. Татур і К. Міхеева, як і яшчэ звыш за 20 нашых землякоў, прынялі без праблем".

Хоць Савецкага Саюза ўжо даўно няма, склад мыслення ў многіх з нас усё яшчэ савецкі. Гэта пры савецкім часе на "нацыянальную форму" мала звярталі ўвагі. Нават Зносак з "Тутэйшых" Янкі Купалы здолеў заўважыць перад акупацыяй Беларусі палякамі, што і пры ўладзе бальшавікоў краіна ўсё-ткі заставалася "Расійскай, между прочим, імперыяй". Па колішняй завядзёнцы ў нас рускіх пісьменнікаў прынята лічыць беларускімі, бо яны, маўляў, тутэйшыя. Так і Васіля Быкава, раз ён жыве ў Чэхіі, трэба аднесці да тамтэйшай літаратуры, хоць дасюль у праграмах па рускай літаратуры для навучальных устаноў яго ўпарта далучаюць да рускай.

У адрозненне ад беларускамоўных пісьменнікаў, якія пераважна пішуць "мляўка", гэтага не скажаш пра некаторых тутэйшых рускамоўных паэтаў. Напрыклад, адзін з прынятых у Саюз расійскіх пісьменнікаў Андрэй Скарынкін у вершы "Осенний вечер" з вялікай экспрэсіяй прамаўляе:

*Ой, вы, суки да псы,*
*не мешайте вы мне*
*Слушать плач журавлей*
*улетающих.*
*Разрешите вы мне побродить*
*в тишине*
*Среди русских полей*
*увядающих.*

І далей:

*Но о чем в небесах говорят*
*журавли?*
*Может, что-то вещают*
*о Родине?*
*Что останется русским*
*от Русской земли*
*После самой большой*
*непогодины?*

Хоць гэты твор, здаецца, пакуль што не перакладзены на беларускую мову, затое беларускі кампазітар А. Чыркун ужо паспеў пакласці яго, як і шэраг іншых вершаў паэта на музыку.

Безумоўна, як любяць гаварыць расійскія крытыкі пра мастакоў, працаваны твор А. Скарынкіна прасякнуты значнай станоўчай "энергетыкай", гэта, паводле анатацыі да зборніка "Плач журавлей", "Глыток чыстай вады, свежага паветра".

Яшчэ большай "энергетыкай" прасякнуты артыкулы "беларускага" драматурга Андрэя Курэйчыка, надрукаваныя апошнім часам у "Белорусской газете" пад рубрыкай "Радости жизни" і скіраваныя супраць Беларускага тэатра, а калі ўзяць шырэй — наогул супраць беларускай культуры. Станоўчае ў "энергетыцы" артыкулаў тое, што яны парушаюць "сцішанасць" існавання беларускай, пераважна ўхвальнай, тэатральнай, літаратурнай крытыкі і, адпаведна, крыху ажыўляюць тэатральнае і літаратурнае жыццё.

"Можна толькі здзіўляцца, наколькі дабратворнай глебай з'яўляецца беларускі тэатр для ўсялякага роду недарэчнасцяў", — заяўляе Курэйчык у артыкуле "*Мусорный ветер, дым из трубы...*" Ён пацвярджае сваё меркаванне на прыкладзе спектакля Магілёўскага абласнога тэатра "Успаміны пра Вавілон" паводле "любопытной" п'есы Алены Пановай, пастаўленым рэжысёрам Уладзімірам Савіцкім. Аўтар артыкула дае сваю інтэрпрэтацыю інтэрпрэтацыі п'есы ў спектаклі з пыхай сапраўднага валадара апошняй, абсалютнай ісціны. Ён лічыць, што "спектакль пастаўлены... у зусім памылковым прачытанні рэжысёра Савіцкага". Паводле Курэйчыка: "У перакладзе рэжысёра гісторыя атрымалася такой: іншапланецяне прылятаюць у Вавілон, каб "паэксперыментаваць" з людзьмі, у выніку тыя "праяўляюць сябе так, як не ўдалося б і звар'яцелым бабуінам, г.з. поўнымі жывёламі".

Вялікі рускі пісьменнік Ф. Дастаеўскі лічыў знявагай для жывёлаў іх параўнанне з людзьмі. Відаць, Курэйчык яшчэ не ведае, што няма "няпоўных" жывёлаў і што людзі даволі часта паводзяць сябе значна горш за іх. Менавіта гэта і высветлілі з дапамогай "лазерных ліхтарыкаў" персанажы спектакля, падобныя, на думку аўтара артыкула, да "монстраў з амерыканскіх фантастычных баевікоў". Апошняе меркаванне сведчыць і пра нязведанне ім таго, што ў вобразах монстраў з баевікоў, як і ў вобразах цмокаў, пачвараў з народных казак і міфаў, адбіваюцца праявы рысаў, якія ёсць у прыродзе чалавека і якія робяць яго для самога чалавека страшнейшымі за звяроў.

Гэтая акалічнасць, нязведанне самых элементарных рэчаў, добра патлумачвае, чаму Курэйчыка так абурае смецце, якое пакідаюць пасля сябе іншапланецяне, інакш, нашы сучаснікі. Ён усё яшчэ, у дадзеным выпадку, заўзята прытрымліваецца савецкага гістарычнага аптымізму, пра тое сам не падазраючы, ігнаруе відавочныя факты: як некалі жыхары Вавілона ператварылі свой горад у друз, у смецце, так і сучасныя людзі ўсё больш ператвараюць сваю "сінявокую зямлю" ў сметнік, няўхільна скатваючыся да глабальнай экалагічнай катастрофы.

На маю думку, хутчэй за ўсё, менавіта да самога Курэйчыка цалкам дапасуецца яго выкшталцонае выказванне на адрас стваральнікаў спектакля: падчас чытання артыкула "было такое адчуванне, як калі б вершы Бальмонта ўкладвалі ў вусны калгаснікаў". Калгаснікам для роду іх дзейнасці неабавязкова быць дасведчанымі ў тым, што сімвалізм, да якога належыць творчасць рускага паэта, быў найбольш поўным выразнікам дэкадансу, а вось аўтару артыкула пра гэта і пра тое, што такое сімвалізм і дэкаданс, трэба было б ведаць. Магчыма, гэта дапамагло б яму зразумець трактоўку п'есы Пановай у спектаклі і хоць часткова пазбавіцца ад тае бязглуздзіцы, якую ён натхнёна і няўтрымна гаворыць у сваім "рэвізорскім" допісе.

Няўжо Курэйчык — зацяты вораг прафесіяналізму? Відаць, так, бо, на яго думку, добрыя рэчы здольныя рабіць толькі бездары, чым, маўляў, і займаецца рэжысёр Савіцкі, хаваючы такім чынам сваю мастакоўскую нікчэмнасць. Тут зноў жа гэты драматург, так бы мовіць, *майстра слова*, якога часта не адчувае і не разумее, забываецца на тое, што бездары ў пэўнай галіне ў ёй нічога не могуць зрабіць добра.

Замест таго, каб кваліфікавана прааналізаваць спектакль Магілёўскага тэатра, Курэйчык з выглядам найвышэйшага аўтарытэта адмыслова вышуквае ў ім недарэчнасці і ў выніку ствarae нешта падобнае да сачынення, спрэс сатканага з недарэчнасцяў, стылёвых хібаў, моўных памылак, згодна з сучаснай школьнай тэрміналогіяй. Ну не могуць тутэйшыя абысціся без трасянкі! У Курэйчыка ж — руская трасянка. І праз яе Курэйчык, паводле яго ж прызнання, дбае пра пакрыўджаных рэжысёрам дзяцей і, падаецца, менавіта з іх гледзішча падыходзіць да разгляду спектакля...

Але, думаецца, вучням, па цяперашнім часе звычайна "камп'ютэрным хлопчыкам", якія не лічаць патрэбным засвоіць прымітыўныя арыфметычныя дзеянні, ніколі не стаць не толькі вялікімі матэматыкамі, але і не спасцігнуць нават самых простых раздзелаў вышэйшай матэматыкі.

Лепшыя спектаклі Уладзіміра Савіцкага ("Свае людзі — паладзім", "Восеньская саната", "Віват, імператар!" і інш.) яскрава выяўляюць найбольш значныя тэндэнцыі ў сучасным тэатральным мастацтве. Абазваўшы рэжысёра на пачатку свайго артыкула "бездарам", а напрыканцы абвясціўшы ўсю ягоную творчасць "смеццем", Курэйчык заканчвае такой сентэнцыяй: "Нам усім неабходна да гэтага прыслухацца (напэўна, да разважанняў аўтара. — **Э. С.**) і пачаць падрыхтоўку да татальнай абароны". Дык што, з кім і ад чаго ён збіраецца "татальна" абараняць?..

**Эдуард САДАЎНІЧЫ**

---

ВЕЧАРЫНЫ

# ІСЦІНА? У ЛЮБОВІ!



10 гадоў для балета — шмат. Сярэдзіна творчага шляху. Зеніт жыцця ў мастацтве. У Юліі Дзятко ды Канстанціна Кузняцова — вядучага дуэта балетнай трупы Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра (і дуэта сямейнага) — жыццё яркае. Як і належыць зоркам. Яны ззяюць на першых ролях у спектаклях "Жызель", "Дон Кіхот", "Зачараваны прынц" ("Шчаўкунчык")... Іх запрашае маэстра В. Елізар'еў танцаваць галоўныя партыі ў спектаклях Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета.

Дарэчы, сцэна з "Рамэо і Джульеты" ў яго пастаноўцы была паказана падчас вечарыны, зладкаванай да 10-годдзя творчай дзейнасці дуэта. Прыгожае атрымалася свята! Класічныя (і класныя) танцоўшчыкамі паўсталі Ю. Дзятко ды К. Кузняцоў у "Арлекінадзе", "Эсмеральдзе". Артыстызм, стыльнасць, адухоўленасць мастацкага вобраза, тэхнічнасць у выкананні скачкоў і вярчэнняў. Скульптурная выразнасць складаных падтрымак. Агульнае творчае дыханне...

Нібы ўсё новыя разматыя кветкі, "юбілейны букет" дапаўнялі нумары іншых артыстаў Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра: класіка, мадэрн... Прынамсі, мініяцюры ў пастаноўцы Раду Паклітару "Беларускае галашэнне" ды "Флейта Пана". Знаны балетмайстар з Малдовы, вучань Валянціна Елізар'ева, да вечарыны сваіх сяброў падрыхтаваў і прэм'еру. Яго харэаграфічная сюіта "In pivo veritas" на матывы ірландскіх піўных песень ды музыку эпохі Рэнесансу была паказана ў другой частцы імпрэзы. Бурапенная фантазія, простанароднын гумарам, дасціпнай пластыкай поўніліся агульныя мізансцэны, ансамблі вясёлых маладых танцораў, сольныя варыяцыі герояў урачыстасці.

"Ісціна — у віне", — сцвярджае антычная мудрасць. "У піве", — з усмешкаю папраўляюць чынніі новага відовішча. "Ісціна — у любові", — пераконваюць тыя, хто аддае сябе мастацтву. Сярод іх — і лаўрэаты шасці міжнародных конкурсаў Ю. Дзятко ды К. Кузняцоў.

Пры канцы вечарыны іх віншавалі ўсе разам. Калегі, публіка, кіраўніцтва культуры горада, галоўны балетмайстар тэатра Н. Дзячэнка і дырэктар А. Ісаеў. Ён, дарэчы, выказаў пажаданне, каб радзіма лепш ведала і цаніла свае таленты, любіла і своечасова падтрымлівала іх, не шкадуючы і ганаровых званняў...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*НА ЗДЫМКУ: Юлія ДЗЯТКО і Канстанцін КУЗНЯЦОЎ у спектаклі "Дон Кіхот".*
**Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА**

---

АНОНС

# КІНЕМАТОГРАФ ГАЛІНЫ

Убачыць беларускае дакументальнае кіно ў сталічным кінатэатры з долбі гукам — магчымасць па цяперашнім часе унікальная, рэдкая. Перадусім для саміх стваральнікаў фільмаў, якія ў нас не спешчаны "вялікімі" экранамі. І для гледачоў таксама, якія могуць толькі здагадвацца аб існаванні ў Беларусі вельмі прыстойнага, таленавітага дакументальнага кіно.

Сёння а палове дзевятнаццатай гадзіны ў кінатэатры "Мір" пройдзе Вечар аўтарскага кіно Галіны Адамовіч. Фільмы гэтага самабытнага рэжысёра-дакументаліста (між іншым — вучаніцы вядомага В. Дашука) — тонкія, праўдзівыя, шчырыя кінааповеды. У творчай майстэрні Г. Адамовіч — найперш адбіткі непаўторных абліччаў таленавітых творцаў. Фільм "Геній месца" ("Беларусьфільм", 2002 г., 20 хвіл.) прысвечаны асобе акцёра і мастацкага кіраўніка пластычнага тэатра "InZest" Вячаслава Іназемцава, а стужка "Фауст Арлена" (1996 г, 20 хвіл.) — славутага графіка Арлена Кашкурэвіча.

Карціна "Жылі-былі" (2001 г., 10 хвіл.) — гэта "Эмацыянальны погляд на чарнобыльскую праблему праз 15 гадоў" (фільм узнагароджаны шматлікімі прызамі на міжнародных кінафестывалях). Казыча душу, выклікае слёзы фільм "Кані кулы для сіраты" (1998 г., 20 хвіл.), які распавядае аб адпачынку беларускіх дзетак з школы-інтэрната Жыткавічаў у італьянскім горадзе Мадона Ды Кампільо. Вочы дзетак, кінутых бацькамі, хваляюць тут рэжысёра больш за ўсё. Бо ў іх — адзінота, страх, якія не павінны быць адбіты ў вачах нашых дзяцей.

Не прапусціце гэты вечар!

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ — ЛІТАРАТУРА

**Першы Нацыянальны канал**

Аўтарскія праграмы "Брама", "Авансцэна", "Палітра", "Сентыментальнае паляванне" трывала заваявалі ўвагу аматараў літаратуры і тэатра.

"Ваша перадача "Брама" з'яўляецца крыніцай, дзе душа можа напіцца радасці", — піша мінчанка Данута Лебедзева. Цікавыя лісты на адрас праграмы даслалі Фёдар Валадкевіч з Сенненскага раёна, Наталля Баглай з Мінска і іншыя.

Аўтарскія праграмы гучаць у аўторак, сераду, чацвёр і пятніцу у 22 гадзіны 30 хвілін.

Штодня пасля поўначы — "Кароткія гісторыі", у суботу ў 10.45 — "Літаратурны праспект", у нядзелю — "Кніжны кіёск". Пра літаратуру ідзе гаворка і ў іншых праграмах Першага Нацыянальнага канала.

"КЛУБ ДАМАСЕДАЎ". Панядзелак-аўторак, у 11.00 працягваем чытаць разам старонкі рамана У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", у чацвер у гэты ж час — праграма В. Макарэвіча "Натхненне".

"ЛІТАРАТУРНЫ АЎТОРАК" у "Сімфоніі дня" 4 сакавіка прапануе ўвазе сваіх слухачоў: у 12.10 — "Дзеяслоў" Л. Рублеўскай, у 13.10 — "Таленты з глыбінкі" М. Прохар, у 14.10 — "Магія творчасці" З. Каваленкі прысвечана мастаку У. Гардзеенку, у 14.40 — "Сугалоссе" У. Дзюбы пазнаёміць з перакладамі вершаў польскага паэта Ч. Мілаша (перакладчык А. Мінкін), з 15.00 — "Ліставанні" І. Рыбіцкага, у якіх — эпісталярная спадчына рускага літаратуразнаўцы XX ст. М. М. Бахціна, у 15.30 — "Паэтычны радыётэатр", і напрыканцы "Літаратурнага аўторка" — праграма Г. Шаблінскай "Гаспода", пачатак эфіру ў 16.10. Госць студыі — літаратуразнаўца П. Васючэнка, тэма: "З гісторыі рыцарскай культуры". (Паўтор у суботу, у 10.10).

Н. К.

---

Творчая сустрэча паміж навучэнцамі Аграрнага каледжа і кіраўніцтвам СБП адбылася 4 лютага ў вёсцы Новае Поле пад Мінскам. Больш чым двумстам слухачам каледжа — будучым аграномам, бухгалтарам і юрыстам было цікава даведацца аб сённяшнім жыцці пісьменніцкай сябрыны. З грунтоўным дакладам на гэтую тэму перад прысутнымі выступіў старшыня СБП Алесь Пашкевіч.

Творчыя стасункі Саюза пісьменнікаў, а таксама перспектыву ўзаемаадносін пісьменніцкай арганізацыі і ўладных структур абмаляваў у сваім выступе першы намеснік старшыні СБП Барыс Пятровіч.

Мастацкая частка сустрэчы прайшла пад дэвізам: " Паэзіі й песні — сумоў'е..." За яе адказваў Эдуард Акулін, які прачытаў слухачам цыкл балад і праспяваў некалькі сваіх новых песень.

•

У Мінскім педагагічным каледжы імя М. Танка 11 лютага прайшла літаратурна-мастацкая вечарына з удзелам старшыні СБП А. Пашкевіча і ягоных намеснікаў: Б.Пятровіча, М. Скоблы і Э. Акуліна. Прыемнай неспадзяванкай для гасцей стала музычнае прывітанне (славуты паланез Агінскага) у выкананні аркестра народных інструментаў пад кіраўніцтвам выкладчыка каледжа І. Лосіка.

Лірычны запеў вечарыны працягнула прамова старшыні СБП А. Пашкевіча аб надзённых клопатах пісьменнікаў. Гэтыя і іншыя актуальныя пытанні закранулі ў сваіх выступах і астатнія ўдзельнікі сустрэчы.

Але, перадусім, на вечарыне вяла рэй беларуская Паэзія і Песня. Свае творчыя набыткі па чарзе перад прысутнымі прадставілі Б. Пятровіч, М. Скобла і Э.Акулін, які прэзентаваў слухачам свой новы кампакт-дыск выбраных песень.

ЯнАк



***Штогод на зыходзе зімы, тою парою, калі раніцой брудна-шызыя гарадскія туманы цiснуцца між шэрых шурпатых панэльных дамоў, чапляюцца за чорна-карычневыя ствалы ліп за маім акном ды лена ліжуць ссінелы наздраваты калляны снег, я чакаю званка з Салігорска ад сябра, паэта, мастака, рыбака, паляўнічага і падарожніка Хведара Гурыновіча. І званок раздаецца. Хведараў вясёлы голас патрабуе: "Годзе высіджвацца — вясна... рыхтуйся да мяне. Неўзабаве пойдуць гусі..."***

# ТАМ ПЕСНІ ЖЫВЫЯ АЙЧЫНЫ...

Салігорск — па сённяшнім часе — рукой падаць: усяго нейкіх 130 кіламетраў ад Мінска. Але калі ты падарожнік, схадзіў-аб'ездзіў ці не ўсю Беларусь, дык ведаеш: нават на такой адлегласці на поўдзень ад сталіцы змены ў прыродзе прыкметныя. Скажам, у яго, Хведаравым краі сады зацвітаюць дні на 2—3 раней, чым пад Мінскам. І снег там таксама сыходзіць дні на 2—3 раней. Звоніць Хведар, бо там ужо вясна адчуваецца, а ў Мінску яшчэ змрачнавата ад снегу. І туманы тут нашча брудныя. Гэта ў яго любімых старобінскіх лясах, палях, лугах і пералесках яны ўжо нагадваюць залацістае мроіва з намiткамі сінечы. І снег там, ведаю, сінейшы, і лёд больш празрысты, і ўсё там наўкола жыве прадчуваннем радасці, у той час калі ў сталічнай прыродзе яшчэ чэпкая нуда...

Я слухаю Хведара і ўяўляю, як пад яго салігорскім акном — дом недалёка ад лесу — ужо "ціха звоняць сініцы", як весяліцца сонца на сляпучай белізне недалёкага вадасховішча, гуляе ў зялёна-празрыстых вершалінах меднаствольных соснаў, і кажу:

*Мастакі й паэты, годзе спаць,*
*Гляньце — уся ваколіца заліта*
*Промнямі, іх велічны каскад,*
*Быццам мастакоўская палітра.*

Гэта Хведараў верш. І хоць я мастак і паэт ніякі, а ўсё ж чую, што ў творы кліч і мне: на яго зямлі паўсюль ужо сонечныя промні. І няважна, што верш з іншай пары года: я ў вясну пераношуся. Ды думаю: цудоўна, калі дадзена чалавеку ва ўсім бачыць паэзію.

*Гусіны клін на скразняку*
*Плыве спрадвечным накірункам.*
*І пахне першым пацалункам*
*Туман у волкім лазняку.*

Хведар Гурыновіч сапраўдны жывапісец. І мастак у паэзіі. Часам мне здаецца, што свет ён заўсёды і ўсюды ўспрымае, як мастак. Але ж, бачыць, напрыклад, як "у вячэрняй глыбіні" плёса то вясна, то лета, то восень "перамешвае нябёсы". А яны і там блакітныя, залатыя, зялёныя... З тысячамі адценняў. Чыстых, прыродных. Там фарбы дапаўняюць адна адну, там светла і чыста, як нідзе ў горадзе. Ён бачыць, як крохка-зялёныя нябёсы плывуць, клубяцца ў сініх вірах, і як адтуль выбліскваюць "алмазныя Стажары". А яшчэ — як ледзь прыкметна "ўздрыгвае рака", ды разбіваецца аб камяністы бераг "залаты чаўнок маладзіка". І чую, паўсюль амаль няўлоўны звон "таемны, як крышталь"...

Шмат разоў быў я ў краі гэтым, ля мясціны той. Але не бачыў яе так, як мой сябра — паэт. Проста — лес, вада, неба, маладзік. Хведар жа, маючы паэтычнае ўспрыманне свету, усё па-іншаму паказаў.

Мы разам нямала паблукалі па яго любімых пералесках. Там вясною ў нізінах начуюць залацістыя туманы. Нямала пахадзілі па лясах Старобіншчыны, дзе спрадвеку жыве чуйнае рэха. Мы разам неаднойчы журыліся каля знішчаных рачулак і азярын, што нагадваюць рваныя, незагойныя ржавыя шрамы на твары зямлі. Мы столькі разоў абураліся тым, што няшчадна нішчыцца прырода, ніякавеючы ад бяссілля нешта змяніць. Зрэшты, ці толькі мы ўдвух. Вясной і восенню Хведар абавязкова збірае ў сябе ў Салігорску сваіх далёкіх і блізкіх сяброў. Адтуль мы ўсе потым едзем у гэтыя мясціны, бліжэй да Мікашэвіч і Жыткавіч. Гэты край яшчэ год трыццаць таму лічыўся амаль не чапаным чалавекам. (Летам звычайна падарожнічаем паасобку, кожны сваім шляхам.) І вось што заўважыў: звычайна, калі людзей многа, знявечанасць прыроды не ўспрымаеш так востра, ты сам-насам з ёй. Быццам так і павінна быць. Скажам, як звычайнае ўспрымаеш у горадзе бруд, спустошанасць, поплямы на лугавінах вясною, калі паляць траву (во чалавечая сутнасць нішчыць!). Усё гэта здаецца непазбежным, амаль абавязковым. Маўляў, людзі ж паўсюль. У адзіноце ж кожнае зламанае дрэўца, кожны здратаваны лапік травы, выжарына — б'е ў вочы, вярэдзіць душу. Мабыць, калі сам-насам, дык усё ж на генетычным узроўні абуджаецца твая еднасць з прырадай, з якой спрадвеку жыў чалавек...

У тым, даўно ўжо і маім любімым краі (хоць любімым становіцца кожны край, дзе быў, слухаў галасы птушак, плёскат хваль, пошум лесу, сустракаў раніцу і праводзіў дзень, начаваў пад зоркамі), быў я сведкам нараджэння верша...

Гэта была пара, калі зранку наваколле аглушылі тысячы стрэлаў — адкрыццё палявання. Стрэлы тыя знішчылі птушыныя галасы, шэпт траў, шолах лістоты. Паветра завалакло едкім дымам.



З Мікалаем КАРАЧАНЦАВЫМ

Мы з Казімірам Камейшам, тады ўпершыню трапіўшы ў асяродак, дзе тое, што робяць людзі са стрэльбамі, не паддаецца ніякай логіцы, былі проста ашаломлены: навошта... Нам даводзілі, што паляўнічымі былі многія класікі нашай, рускай і іншых літаратур. Казалі, што паляванне — гэта своеасаблівае ўспрыманне свету, занятак, варты мужчын і г.д. І толькі Хведар сказаў пра сам працэс падрыхтоўкі да палявання, дзе для яго важна ведаць павадкі звера і птушкі, паводзіны чалавека ў лесе, а не бязладная страляніна. А яшчэ, што, мабыць, сапраўдны паляўнічы ведае і любіць прыроду, як ніхто.

І калі раптам стрэлы сціхлі, смурод развеяўся, наўкола павісла такая цішыня, што здавалася, толькі ўдыхні паветра на поўныя грудзі, яна рассыпецца, як крохкі крышталь.

Тады Хведар паклаў ружжо на траву і ціха, нібы баючыся раструшчыць цішыню тую, пайшоў да ракі. Ступіўшы колькі крокаў па халоднай траве, абсыпанай спрэс бліскучай расой, сказаў: "Лаўлю цішыню... Ліст затрапеча — зламае яе..."

Так нарадзіўся верш, які я цытаваў. Тады Хведар прызнаўся, што даўно задумаў напісаць кніжку для дзяцей пра лясныя расліны, што хоча расказаць праз паэзію і прозу ўсё, што ведае аб прыродзе... Але, зараз дзеці, асабліва гарадскія, у лесе, як чужынцы. А школьнае знаёмства з жыццём прыроды праз батаніку — прыгажосці яе не адкрывае.

Праз гады Хведар напісаў такую кнігу. Называецца яна "Лес на далоні" ("Юнацтва", 2001 г.).

У ёй два раздзелы. У першым каля 60 вершаў пра травы, кусты і дрэвы, як кажуць, ад "А" да "Я". Канкрэтна, ад ажыны, амялы, асіны, да шыпшыны, ядлоўца і ясеня. Кожны верш падмацоўваецца невялікай празаічнай замалёўкай. У ёй, напрыклад, можна вычытаць, што "сок воўчага лыка ўтрымлівае атруту" і "асабліва небяспечны, калі трапіць у вочы". А таксама, якія б прывабныя не былі яго "ярка-чырвоныя авальныя ягады", лепш не чапаць іх. Там нямала займальных успамінаў з вясковага дзяцінства паэта, калі яму свет адкрывалі дарослыя людзі.

У кнізе ёсць верш "Егер". Гэта невялічкі аповед пра канкрэтнага чалавека са стрэльбай, егера, які не столькі пасадай сваёй, як складам душы прызваны аберагаць усё жывое ў лесе. Як ведаем, гэта слова нямецкае — "паляўнічы". Але тут яно чытаецца, як "абаронца" прыроды.

Такім быў егер Старобінскага лясгаса Толя Цыранкевіч, яшчэ зусім малады хлопец, сябра паэта. І менавіта за тое, што абаронца, Толю забілі браканьеры... Сёння ж егерскай службай лясгаса, кіруе таксама Хведараў сябар, сапраўдны знаўца прыроды Уладзімір Далматовіч.

Калі Хведар прыслаў мне гэтую кніжку і я пачаў чытаць яе, то надоўга вярнуўся ў тыя мясціны, бліжэй да Палесся, да нашых начных кастроў, бясед каля іх. Я бачыў усё жывыя рачулкі, у якіх вясною нерастуе рыба, хадзіў па лясах, яшчэ населеных зверам, стаяў у лугах, дзе пакуль яшчэ садзяцца на спачын пералётныя гусі, качкі, журавы, буслы... Чытаў і думаў, чаму з кожным годам усё больш і больш страшна становіцца за прыроду. А таксама, чаму сучасны чалавек, які вучыўся ў нашы школах, ВНУ, чытаў разумныя кнігі, выхоўваўся ў сям'і, грамадстве, дабраўшыся да прыроды, няшчадна знішчае яе. І адказу не знаходзіў.

Далей мушу сказаць, што ў нашых лясах, на нашых рэках і азёрах звычайнаму аматару прыроды трэба асцерагацца найперш чалавека са стрэльбай. А калі ўжо сыходзіць з майго ўласнага вопыту, то і я, падарожнічаючы з таварышамі, неаднойчы трапляў на Бярозе, Свіслачы, Случы, Прыпяці, Друці, Нёмане, у іншых мясцінах пад увагу такіх "паляўнічых". Здаецца, для іх, калі ў руках зброя, не існуе іншай мэты, як знішчаць...

Хведар кожны раз папярэджвае нас, каб мы саступалі такім дарогу, не ўвязваліся з імі ні ў якія спрэчкі. Мабыць, яно так. Але ж нам з Казімірам Камейшам аднойчы давялося бачыць, як асабіста ён ноччу абяззброіў дваіх пад-

леткаў, адабраўшы ў іх стрэльбу. Відаць, тады гэта трэба было некаму зрабіць: добра-такі падвыпіўшыя хлопцы ездзілі на матацыкле па ўзлеску, дзе мы атабарыліся, стралялі то ў нашым кірунку, то ў кірунку сваёй звар'яцелай кампаніі, што "гуляла" побач. (Апраўдваліся, што так, напалохалі — "соль"). Думаю, не абяззброіў бы, магла б здарыцца трагедыя. (Наш жа з Казімірам удзел у аперацыі быў такі: хавайцеся ў засаду, ды далей ад бяды.)

І гэта я ўспомніў, чытаючы далей кнігу, а канкрэтна пра егера Толю Царыкевіча. І думаў: няхай дзеці ведаюць, што сёння не ўсё так проста і там, дзе прырода, дзе прыгажосць.

*Пра Хведара Гурыновіча як паэта* пісалася, здаецца, не так ужо і шмат. Пра празаіка — наогул ні радка. Не буду навязваць сваё меркаванне пра яго талент празаіка, лепш працытую радкі з кнігі *"Лес на далоні"*. Вось, напрыклад, як аўтар апісвае з'яўленне на свет звычайнай сон-травы... "Спярша праз мінулагод-



нюю рыжую ігліцу прабіваецца тоўсты чырвоны парастак. Трубчастая галінка густа ўсыпана аксамітавым пушком. Бэзавы бутон таксама да пары да часу схаваны ў гэтакі ж пуховы кошык. Ноччу яшчэ мароз паляпвае рукавіцамі, а таму сцяблінка не спяшаецца расці. І тады кветка на зусім яшчэ кароткай ножцы ўспыхвае бэзавым колерам. А сцяблінка падымае яе вышэй і вышэй. У глыбіні званочка хаваюцца ярка-жоўтыя тычынкі. Каб іх не загубіў холад, пялёсткі шчыльна "замыкаюцца" нанач, а днём зноў весела ўсміхаюцца сонцу".

У другім раздзеле кнігі — "Грыбная паэма". У ёй 33 жыхары (грыбы) тых нашых любімых мясцін. Ад баравіка да бледнай паганкі. Так бы мовіць, з месцамі "прапіскі", з "партрэтамі", з малюнкамі прыроды (дзе, што, калі), ды з рэкамендацыямі, што браць, а што не...

Для дзяцей Хведар Гурыновіч выдаў некалькі кніг паэзіі. Акрамя гэтай — "Пасадзім па дрэўцу" (першая), "Птушыная азбука", за якую аўтар удастоены літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра, "Што я ўнуку скажу?".

Дарэчы, "Што я ўнуку скажу?" усё ж, відаць, найперш для нас, дарослых, хаця там ёсць што пачытаць і юным. Яна выдадзена ў 1994 годзе. Вельмі важная задума — наша, кожнага асабістая адказнасць за будучае жыццё на зямлі. Там, у лесе, ля кастра, чуў я і з яе радкі:

*Зямлякі вы мае, землякі,*
*Што ж мы ў доме сваім нарабілі? —*
*Асушылі ўлонне ракі,*
*Быццам рэчка была ў нас рабыняй.*

Я не ведаю, да месца такое параўнанне ці не. Але для мяне важна іншае: многае, пра што чытаў Хведар, бачыў я шмат дзе на нашай зямлі. Падарожнічаючы, бачыў безліч "каналізаваных" рэк — знішчаных намі, людзьмі. Бачыў тарфяныя буры на Палессі, дзе некалі былі жыццядайныя балоты і азёры. Таксама бачыў пустэльні там, дзе яшчэ нядаўна шумелі бары. Бачыў свінафермы ўсяго ў пяцідзесяці кроках ад азёр і шмат чаго іншага нялюдскага. А Хведар не стамляўся і не стамляецца гаварыць, што знішчэнне прыроды — гэта вынішчэнне чалавечага духу. Пад рапарты, пад лозунгі, пад крыкі "ўра" нішчым тое, што ніколі аднавіць немагчыма...

Але, набліжаецца вясна. З выраю паляцяць пералётныя птушкі. Адкрыецца паляванне. І Хведар паляўнічы. Стралок ён — *варашылаўскі: падкінь корак, не цэлячыся* саб'е на любой адлегласці. Але, скажу я вам, на справе ён не той паляўнічы, спрэс абвешаны забітай птушкай, якога вы бачылі на лімаўскім здымку гады тры таму. Здымак той рабіўся пры нас з Камейшам: паляўнічыя, каб сфатаграфавацца, сабралі ўвесь калектыўны трафей. Здымак неабачліва змясцілі ў газеце: а знаёмыя пісьменнікі, маўляў, чаго гэта варта... Зараз, як кажуць, "адмыцца" цяжка. Але, думаю, калі пачытаць яго кнігі, асабліва "Што я ўнуку скажу?" ды "Запрашаю пад дождж", стане зразумелым: *чалавек, які так піша пра прыроду, на кепскае не здатны.* Палюе, але ў меру. (Паўтаруся, што сам працэс для сапраўднага паляўнічага, між іншым, як і працэс для *сапраўднага рыбака, заўсёды важней,* чым любы трафей. Ды сябрына каля кастра, вечары, ночы, світанкі дзе-небудзь у глушы нішто табе не заменіць, калі любіш прыроду.) Каб зразумець гэта, трэба хоць раз выйсці на спатканне з вясной, летам, восенню, зімой — на прыроду. Далей ад горада. Ды ўбачыць, як з'яўляецца першы сонечны прамень, як з ім абуджаюцца птушкі, як потым прачынаюцца лес, луг, поле...

Так, Хведар паляўнічы. Але паляўнічы з дзеясловам "жыць". Аб гэтым, між іншым, ён сам прызнаўся ў вершы "Мёртвае возера", які, пахвалюся, таксама нараджаўся пры мне, як і многія іншыя Хведаравы творы пра прыроду. Я таксама добра ведаю тое возера. У яго цудоўна даваць нырца, а потым, вынырнуўшы з халоднай таемнай глыбіні, плысці на спіне ды:

*глядзець, як страсна, адмыслова*
*крамсаюць воблакі стрыжы,*
*І паўтараць часціны мовы,*
*Пачаўшы з дзеяслова "жыць".*

Рэдкае для чалавека са стрэльбай пажаданне ўсяму жывому — жыць. Жывому ж у прыродзе, між іншым, сёння ў нас пагрозу нясём не толькі мы самі, але і чужынцы. Так, так... У кнізе "Запрашаю пад дождж" ёсць твор "Старны" (курапаткі) з італьянскай. Дык вось: "У верасьнёўскі дзень перадапошні / Палюем з італьянцамі на пожні. / Ці лепш сказаць, яны палююць самі, / А мы як не ў свае паселі сані".

Але, хто сёння толькі не палюе на нашай зямлі за грошы. Заўважце, не ў сябе на радзіме, у нас. Ім, чужынцам, усё адно, якія птушкі ў нас: ім важна прывезці трафей. "А ўсё-ткі недурныя нашы птушкі... / Ды ловіць жаўрука ў нябёсах мушка. / Ляціць, як ліст з бярозы, з паднябесся / Зарадам шроту спыненая песня. / Яе стралок з травы зграбае жменяй..."

І што тут такога, пярэчылі мне некаторыя чыноўнікі і проста людзі, калі я з абурэннем чытаў ім гэты верш Хведара Гурыновіча. "Грошы ж плацяць". Не адказваў такім: не зразумеюць і не хочуць разумець. Для паэта ж:

*І ўжо на песню ў нас Радзімы меней.*
*...А дзень прыгожы. Ясны, быццам*
*лебедзь.*
*Яшчэ цвітуць валошкі. Сонца*
*слепіць —*
*На неба вочы ўскінуць немагчыма...*
*Хоць песні пашкадуй свае, Айчына.*

Але, Хведар, едзем: у тваім краі яшчэ песні жывыя Айчыны. Там вясной яшчэ ружовыя туманы, там чысты снег, звонкае рэха і светлае неба. І хочацца верыць: апомнімся, зможам захаваць усё такім назаўжды.

**Уладзімір САЛАМАХА**



# МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы а б а в я з а н ы памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: м ы б е л а р у с ы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim@tut.by.




20 лютага ў чарговы раз адбылася сустрэча сяброў суполкі маладых твор цаў "Літаратурны квартал". Размова вялася на актуальныя тэмы, што тычацца сучаснага літаратурнага працэсу. Які лёс "высокай літаратуры"? Ці вытрымае яна канкурэнцыю з "масавай"? І ці ёсць мяжа паміж першай і другой? На гэтыя і іншыя тэмы разважалі Таццяна Будовіч, Арцём Кавалеўскі, Алег Алекса, Наталля Дзянісава, Вікторыя Барткевіч, Ірына Тоўсцік, Аксана Камінская, Усевалад Гарачка, Наталля Кучмель, Наталля Капа, Мікола Касцюкевіч, кіраўнік суполкі Людміла Рублеўская. Прысутныя таксама чыталі свае новыя творы.

Наступнае пасяджэнне, якое адбудзецца 6 сакавіка, прысвечанае абмеркаванню падборкі вершаў Вікі Трэнас.

*Суполка* "Літаратурны квартал" збіраецца па чацвяргах у памяшканні рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" а 18 гадзіне.

## ВЕЧАРЫНЫ

17 лютага дэлегацыя літаратараў у складзе В. Іпатавай, М. Скоблы, А. Хатэнкі і Э. Акуліна наведала Магілёў. Творчыя сустрэчы адбыліся ў Магілёўскім камбінаце хімвалакна, Музычным вучылішчы, СШ №35, Тэхнічным каледжы і Магілёўскай гарадской бібліятэцы.

На выніковай вечарыне ў гарадской бібліятэцы да сталічных гасцей далучыліся *прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі* Магілёва кампазітар М. Яцкоў, паэт і філолаг С. Украінка, сакратар абласнога аддзялення СБП У. Дуктаў.

"Літаратура і яе месца ў сучасным *грамадстве" -- стала асноўнай тэмай,* якая прагучала ў межах усіх сустрэч.

•

18 лютага ў Дзяржаўным музеі гісторыі літаратуры адбыліся XI—я Гарэцкія чытанні, прымеркаваныя да 110 гадавіны з дня народзін класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага.

З віншавальным словам да ўдзельнікаў чытанняў звярнуліся народныя пісьменнікі Беларусі Янка Брыль і Ніл Гілевіч, а таксама старшыня СБП Алесь Пашкевіч. У чытаннях узялі ўдзел пісьменнікі Анатоль Вярцінскі, Пятро Васючэнка, Міхась Кенька, Анатоль Верабей, Таццяна Дасаева і інш.

•

Арганізацыйна-справаздачнае пасяджэнне Бюро *секцыі дзіцячай літаратуры* прайшло 20 лютага ў Доме літаратара. У склад новага пашыранага Бюро секцыі ўвайшлі А. Бадак, Н. Галіноўская (сакратар секцыі), Я. Каршукоў, У. Мацвеенка, М. Пазнякоў (старшыня секцыі), П. Місько, М. Чарняўскі (намеснік старшыні секцыі), У. Ягоўдзік, У. Мазго, У. Карызна, В. Лукша (намеснік старшыні секцыі).

На пасяджэнні быў зацверджаны план работы секцыі на 2003 год, рэкамендаваны да ўступу ў СБП -- паэт Я. Калашнікаў.

•

У вялікай зале Дома літаратара адбылася вечарына маладой беларускай паэзіі і песні. У імпрэзе ўзялі ўдзел сябры творчых суполак "Літаратар" і "Літаратурны квартал." Адкрыў вечарыну старшыня СБП Алесь Пашкевіч.

**ЯнАк**




## ПАД ПРЫЦЭЛАМ — ПАЭТЫ. І НЕ ТОЛЬКІ...

Прачытаўшы гэтыя радкі, сёй-той гатовы ў роспачы ўсклікнуць: "Гэта ж трэба — дажыліся!" А нехта, магчыма, і за ўратавальнай таблеткай валідолу пацягнецца. Толькі, шаноўныя спадарочкі, не трэба ўскладняць сітуацыю. Усё куды прасцей, чым падаецца, а ўвеў вас у зман ніхто іншы, як Павел Саковіч, у якога нядаўна ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла новая кніга пад назвай "Дуплетам... па паэтах", а ў ёй і сапраўды апынуліся пад трапным гумарыстычным прыцэлам шаноўнага Паўла Паўлавіча не толькі паэты, а і прадстаўнікі іншых творчых прафесій, хоць паэтам ён аддае перавагу. І таму, што паэзію любіць, але і таму яшчэ, што і сам паэт. І не толькі ў душы, а і па прызванні. Кніга ж "Дуплетам... па паэтах" яшчэ раз пацвярджае правільнасць думкі, што асабліва поспеху ў любой справе дасягае той чалавек, які даўно займаецца ёю, і якому яна прыносіць вялікае задавальненне. Гэта ўжо бачна і па тым, наколькі прадумана паставіўся П. Саковіч да кампазіцыйі пабудовы зборніка. Ён складзены такім чынам, што кожны раздзел сам па сабе ўспрымаецца цэласным і завершаным. А да ўсяго і назвы падабраны трапныя, а падзагалоўкі дакладна вызначаюць сэнс таго, пра што вядзецца гаворка.

Узяць, для прыкладу, першы — "Папяровыя пакуты", што ўспрымаецца свайго роду мастакоўскай лабараторыяй: "Творчая майстэрня: як нараджаюцца вершы". У поле зроку П. Саковіча трапілі Юрка Голуб, Хведар Гурыновіч, Эдуард Акулін, Юрась Жалезка, Юрась Свірка, Галіна Каржанеўская і іншыя. Дарэчы, і ў іншых раздзелах ахоп імёнаў не менш шырокі, часам бывае і так, што П. Саковіч якога-небудзь паэта так упадобвае, што звяртаецца да яго творчасці неаднойчы. І кожным разам, адштурхоўваючыся ад напісанага аўтарам, імкнецца знайсці варыянт, каб чытач змог і адчуць своеасаблівасць манеры таго, хто парадзіруецца, і ад душы пасмяяцца, адчуўшы, як у пародыі абыгрываюцца асобныя ўрыўкі з твораў.

А ў раздзеле "Быць альбо не быць?" прысутнічае, па вызначэнні самога П. Саковіча, "паглыблена філасофскі роздум". "Шампанскае на брудэршафт" — гэта "антыалкагольная рэклама". Як і трэба было чакаць, у раздзел "Насіў я дзевак на руках..", трапіла лірыка, але, паколькі кніга гумарыстычная, не проста лірыка, а парадыйная. І які раздзел ні пачнеш чытаць, абавязкова напаткаеш у ім тое, што не проста для душы, а напісана так, што ад душы пасмяешся: "Ну хто другі ўсё сцерпіць гэта?" — "сямейныя разборкі", "Ці зможа Парыж без мяне?" — "па мерыдыянах свету: паэтычныя вандроўкі", "Пяро мяняю на лапату" — "сам-насам з прыродай".

Можа трапіць і... на "флірт пад стагом", а менавіта такая назва аднаго з раздзелаў. Каб, барані Божа, цнатлівы нічога благога не падумалі, аўтар зборніка паспяшаўся засведчыць, што ўсё гэта "толькі не для дзяцей". І сапраўды, у асобных эпіграмах падаюцца такія пікантныя падрабязнасці, пра якія малечы лепш не ведаць.

На завяршэнне П. Саковіч прапанаваў раздзел "Эпіграмы як рэкламы". Таксама надзіва цікавы і багаты на імёны. І гэтаксама ў меру сур'ёзны, у меру жартоўны.

Алесь МАРЦІНОВІЧ



# НОРАВЫ АВАЛЬНАГА КАБІНЕТА

Адметнасць прозы Мікалая Чаргінца ў тым, што кожны твор гэтага аўтара хочацца не проста чытаць, а звяртацца да яго неаднойчы. Раман "Тайна авальнага кабінета", які ў скарочаным варыянце друкаваўся ў часопісе "Всемирная литература", а таксама двойчы выходзіў асобнай кнігай: у Маскве і ў нашай "Мастацкай літаратуры" — лішняе пацвярджэнне правільнасці выслоўя: добрага ніколі шмат не бывае. У тым сэнсе, што гэты палітычны дэтэктыў (паводле аўтарскага вызначэння жанру) не толькі ўспрымаецца з вялікай цікавасцю, чытаецца з неаслабным інтарэсам, выклікаючы жаданне на асобных эпізодах запыняць увагу даўжэй, паколькі М. Чаргінец добра ведае законы гэтага жанру і ўмела імі карыстаецца, а і дае падставу для роздуму, падштурхоўвае супаставіць падзеі, якія ўзнаўляюцца ў творы, з тым, што адбываецца ў свеце сёння і прынамсі ў краіне, што прэтэндуе на ролю сусветнага жандарма, але завуаліраве гэтыя свае памкненні імітацыяй барацьбы за правы чалавека. Зразумела, у яе разуменні, якое настолькі далёкае ад ісціны, як Зямля ад Месяца, а яшчэ дакладней — Зямля ад Марса ці ад якой-небудзь іншай далёкай планеты.Дарэчы, у рамане згадваюцца і палёты ў космас, бо і гэтая дзяржава не супраць таго, каб і там шукаць зоны свайго ўплыву. А называецца яна ж, вядома, Злучаныя Штаты Амерыкі.

Той, хто паспеў пазнаёміцца з раманам, ведае, што і падзеі у ім адбываюцца ў ЗША. Але паколькі "Тайна авальнага кабінета" — твор мастацкі, дык выбар месца дзеяння не азначае, што аўтар цалкам прытрымліваецца рэалій, што мелі месца ў сапраўднасці. Правільней зазначыць, што пэўныя падзеі амерыканскага жыцця, скажам так, клінтанаўскага перыяду ўгадваюцца, але, як удакладняюць у падобных выпадках аўтары некаторых твораў, пабудаваных на дакументальнай аснове, супадзенне чыста выпадковае, бо персанажы, народжаныя пісьменніцкай фантазіяй, хоць і ўвабралі ў сябе рысы некаторых канкрэтных людзей, а ўчынкі іх у чымсьці супадаюць з паводзінамі тых, хто і сапраўды жыве ці жыў на гэтым белым свеце, няма ніякіх падстаў іх ідэнтыфікаваць.

Галоўны герой твора — чарговы прэзідэнт ЗША Джон Макоўлі. Пераняўшы "бразды правления" ад свайго папярэдніка, ён адчувае сябе ўпэўненым у тым, што і надалей яго краіна будзе паспяхова развівацца і дыктаваць свае правілы гульні іншым. І трэба сказаць, гэта Макоўлі ўдаецца, а таму ён адчувае сябе ў прэзідэнцкім крэсле надзейна. Аднак так працягваецца да пары да часу. Нечакана наступае ў жыцці ўсёсільнага прэзідэнта момант, калі, здаецца, пад яго нагамі захісталася зямля. Праўда, нічога надзвычайнага з краінай не здарылася, яна па-ранейшаму ва ўсіх сферах на вышыні. Аднак небяспека навісла над самім гаспадаром Белага дома. І пры тым вялікая. Калі прыняць пад увагу, што амерыканскае грамадства выступае за высокую маральнасць, дык Макоўлі зрабіў тое, што несумяшчальна з яго далейшым знаходжаннем у прэзідэнцкім крэсле. Бо, калі гаварыць прасцей, Макоўлі — звычайны разбэшчаны бабнік, для якога ва ўзаемаадносінах з прыгожай палавінай чалавецтва няма нічога святога. І такім ён стаў не пасля таго, як атрымаў неабмежаваную ўладу, а быў і раней. Іншая справа, што дагэтуль мусіў хоць крыху праяўляць асцярогу, а цяпер нават уласны кабінет ператварыў у месца любоўных уцех, а оргіі, якія адбываюцца там (у тым ліку і сярод белага дня) нагадваюць тыя, што аматары вострых адчуванняў могуць напаткаць хіба што дзе-небудзь у падпольным прытоне.

"Тайна авальнага кабінета" — гэта раскрыццё і выкрыццё нораваў самай вярхушкі вышэйшых эшалонаў улады амерыканскага грамадства, дзе даўно няма нічога святога, а тое, што адбываецца, даўно ўспрымаецца многімі нормай. І калі ўзнікае небяспека страціць уладу, нават тыя, хто па логіцы, здавалася б, мусіў абасобіцца, у сапраўднасці праяўляе здзіўляючую салідарнасць.

Характэрная ў сувязі з гэтым размова, якая адбываецца ў прэзідэнта з яго жонкай. Даведаўшыся, што адразу некалькі жанчын падаюць на яго ў суд, патрабуючы абароны гонару, пры тым гучаць і такія абвінавачванні, як звычайнае згвалтаванне, ён у разгубленасці і не ведае, што рабіць далей, бо баіцца страціць пасаду. Сара Макоўлі — на тое яна і жанчына— глядзіць на ўсё куды больш цвяроза і, не панікуючы, падказвае мужу з гэтага становішча выйсце, якое, яна не сумняваецца, абавязкова прывядзе да паспяховага завяршэння гэтага няпростага інцыдэнта, бо яно дапамагала і ў іншых выпадках:

"— Ты спрашиваешь у меня, что делать? Я думаю — отбросить мысли об отставке и стоять до конца. Во-вторых, ты должен помнить, что в нашей стране самый главный президент — это доллар. Поэтому ты должен заставить всех своих богатых людей, всех, кто обогатился благодаря твоей поддержке, раскошелиться и дать деньги, причем большие деньги, чтобы откупиться, заплатить всем этим сучкам за их молчание. Самый лучший замок — это деньги, заплати этой толстогубой минетчице Левин за то, чтобы она не сговорилась с Люсси Бриттон и не лезла в этот судебный процесс... Во время следствия и суда, если он будет, она должна отрицать свою связь с тобой... Мне противно говорить с тобой на эту тему, но иного выхода у меня нет. Речь идет об имидже Президента и судьбе нашей страны. Поэтому личное я оставляю на второй план".

Сапраўды ў гэтай краіне даўно баль правіць яго вялікасць долар. І тут Сара Макоўлі нічога новага не адкрывае. Не трэба здзіўляцца і таму, што яна спакойна ўспрымае здраду мужа, бо, як у беларусаў у падобных выпадках кажуць:абое рабое. Хлусіць Сара Макоўлі, калі прызнаецца:"Мне противно говорить с тобой на эту тему", бо сама нярэдка такія оргіі наладжвае, што Джону і не сніліся. І не пра імідж

# ЗЯМЛЯ І НЕБА ВАСІЛЯ ТКАЧОВА

Уладзіслаў Рубанаў называў вясковую прозу найбольш нацыянальнай. Сапраўды, праз яе наша літаратура здаўна сцвярджае сваю самабытнасць. Закладзеныя класікай традыцыі апявання і ўслаўлення Бацькаўшчыны, яе прыроды, нялёгкай сялянскай працы, панарамнага паказу вясковага жыцця і побыту, адлюстравання глыбокай, генетычнай прывязанасці да зямлі, пранікнення ў асновы народнай маралі і псіхалогіі працягваюцца і развіваюцца ў сучаснай прозе. Аднак тое, што стварае славу беларускай літаратуры ў цэлым, на маю думку, памнажае творчыя пакуты асобных пісьменнікаў, бо даволі цяжка зрабіць нешта адметнае ў літаратурнай плыні, якая мае даўнюю традыцыю, выбітныя постаці, выдатныя і надзвычай таленавітыя палотны.

Тым не менш, вясковая проза нядаўна папоўнілася яшчэ адной кнігай — "Тратнік" Васіля Ткачова. Яна змяшчае шэраг апавяданняў, якія раней друкаваліся ў розных перыядычных выданнях, і аповесць, дзе, дарэчы, ёсць аўтарскае прызнанне: "Дзякаваць Богу, не забываецца гэты маленькі куточак бацькоўскай зямлі (в. Гута Рагачоўскага раёна. — **Н. Д.**), і чым жывуць людзі — жыву і я, а яшчэ ўмудраюся расказаць пра іх іншым..." Землякам з іх штодзённымі клопатамі і праблемамі прысвечаны "Тратнік".

Трэба адзначыць, што тратнік — гэта, як мне стала вядома з аднайменнага апавядання, чалавек, які ўсё траціць. Герой твора пенсіянер Ціханчык альтруіст па натуры і "тратнік са стажам". Маючы два радыёпрыёмнікі, ён шукае каму б аддаць (менавіта аддаць, а не прадаць) адзін з іх і трапляе ў крыху смешную, недарэчную, але тыповую для нашага жыцця сітуацыю. Людзі не разумеюць, што можна проста так аддаць рэч. Адзін толькі не пазбаўлены прадпрымальніцкай жылкі вясковы алкаголік Колька, шукаючы за што выпіць і карыстаючыся бескарыслівасцю Ціханчыка, бярэ прыёмнік і тут жа прадае яго. Канешне, нездарма гэта апавяданне дало назву кнізе, бо ўсім героям В. Ткачова ўласцівы шырыня натуры, бескарыслівасць учынкаў, чуллівасць, дабрыня і прастадушнасць. Дарэчы, агульнае ўражанне ад зборніка псуюць моўныя і стылёвыя памылкі, такія як "захеўрыў вачніцамі памерлых хат", "сур'ёзна паглядзеў невідушчымі вачыма", "легкавік цыўнуўся", "тапопіў позірк", "палез рукой у кішэню", "у жанчыны чамусьці ёкнула пад адзеннем", "пудзь чутна сказаў", "пакуль не заклякне цела", "спусціў яе (лесвіцу. — **Н. Д.**) на паркет" (дзеянне адбываецца на вуліцы. — **Н. Д.**) і г.д.

Разам з тым, у кнізе можна вылучыць шэраг даволі цікавых персанажаў. Гэта і праўдашукальнік Чабаток ("Чабаток"), і адзінокія, пакінутыя роднымі дзецьмі старыя Мірон ("Трое на адзін піражок"), і Сцяпан ("Слуп"). Вялікую ўвагу надае празаік вясковым жанчынам з нялёгкім і пакручастым лёсам. Такімі з'яўляюцца прыгожая, вострая на язык, але нешчаслівая цётка Ганна ("Пра Ганніна жыццё і маўзалей"), нямоглая баба Дуня ("Конь бабы Дуні"), няшчасная прыбіральшчыца Цімчыха ("Дурная баба"), адзінокая парадзіха Дуня Хусціна ("Свята"). У кожным творы адчуваюцца перажыванні В. Ткачова за сваіх безабаронных у жорсткім свеце герояў-землякоў, спачуванне іх цяжкасцям і нягодам. Апавяданні выклікаюць прыхільнасць добра выпісанымі вобразамі, як, напрыклад, наступны: "Спярша паказваецца конь бабы Дуні — тонкая арэхавая кавенька, якая доўга намацвае зямлю, быццам вынюхвае нешта, — і такое ўражанне, што яна, кавенька тая, цацка нейкая, і ёй кіруюць няйначай па радыёсувязі, схаваўшысь за вуглом, — доўга і прыдзірліва выбірае, дзе ўтыкнуцца-заземліцца, а трохі пазней з'яўляецца і нага старой у чырвонай бахіле, не адразу — другая. Старая крэкча, войкае і ахае, а тады, выкуліўшыся нарэшце за брамку, з папёкай уздыхае: усё, выбралася, дзякаваць Богу, на людзі..." ("Конь бабы Дуні"). Гэта адно з лепшых апавяданняў зборніка, дзе змястоўна, лаканічна, усяго на некалькіх старонках намаляваны тыповы вобраз старой самотнай вясковай жанчыны.

Увогуле, характэрным амаль для ўсіх твораў В. Ткачова з'яўляецца пачуццё адзіноты, пакінутасці. Яго герояў нельга назваць шчаслівымі. У большасці з іх драматычныя лёсы, няспраўджаныя надзеі, расчараванні. Разам з тым, кніга не пакідае пачуцця песімізму і безвыходнасці, бо ўсё ж такі героі "Тратніка", як, мабыць, і яго аўтар, жыццялюбы.

Хочацца звярнуць увагу на яшчэ адно апавяданне — "Дурная баба", што мае ў пэўнай ступені востры сюжэт, бо гэта, бадай, адзіны твор, які заканчваецца трагічна. Распавядаецца ў ім пра Цімчыху — сталага веку жанчыну, якая, пакінуўшы мужа-п'яніцу, прыехала ў нейкі гарадок і, не маючы добрай працы, падмятае вуліцу. У кульмінацыі твора змарнелая, галодная, слабая Цімчыха, узабраўшыся на высокую лесвіцу, каб

прэзідэнта яна ў дадзены момант думае, а клапоціцца аб тым, каб мужу не аб'явілі імпічмент, таму што ў падобным выпадку, як першая ледзі краіны, многае страціць.

Падзеі, якія асэнсоўвае М. Чаргінец, вымагаюць надзвва глыбокага псіхалагічнага спасціжэння працэсаў, што адбываюцца ў грамадстве, на якое ён скіраваў свой позірк. А для гэтага неабходна было найперш сабраць шмат фактаў, звестак, што змаглі б стаць цэментуючай асновай для самога каркаса рамана. І трэба сказаць, матэрыял прыцягнуты разнастайны і вычарпальны. І наконт таго, што тычыцца асабістага жыцця некаторых насельнікаў Белага дома, і жыцця палітычнага, у якое пастаянна ўцягваюцца ястрабы вайны, пачынаючы ад галоўнага, які толькі тым і заклапочаны, каб паставіць на месца тых, хто нечым яму не спадабаўся: ад кіраўнікоў некаторых краін і завяршаючы цэлымі дзяржавамі, якія без дай прычыны аб'яўляюцца ізгоямі толькі за тое, што нечым не спадабаліся Джону Макоўлі.

Больш таго, рашэнні аб пакаранні непакорных ён нярэдка прымае ў час своеасаблівых паўзаў паміж чарговымі любоўнымі ўцехамі. А іх у Джона пабольшала, калі з'явілася ў Белым доме новая супрацоўніца Моніка Левін. Наколькі цынічныя думкі нараджаюцца ў яго галаве ў падобныя моманты: "Макоули, ощупывая ее полные, упругие груди, подумал: "Черт возьми, когда я принимаю важное решение, меня непроизвольно тянет к женщинам!". Цынічныя, бо з'явіліся пасля таго, як былі адноўлены бамбардзіроўкі па Іраку. Ды што Макоўлі Ірак! Што яму нявінныя ахвяры ў Югаславіі! Ён даўно адчувае сябе беспакараным і ўпэўнены: так будзе працягвацца бясконца. Інакш і не можа быць там, дзе і сапраўды свайго роду прэзідэнтам выступае долар. Прыходзяць і адыходзяць макоўлі, а долар застаецца і працягвае правіць светам, ламаць лёсы не толькі асобных людзей, а і цэлых краін.

Персанажы рамана не выклікаюць сімпатыі дый да падобных людзей нельга ставіцца інакш. Але, раскрываючы ўсю паднаготную іх, аўтару лёгка перайсці ледзь не да лабавога выкрыцця ўсяго таго агіднага, чым напоўнены іхнія душы і што выклікае адпаведныя паводзіны. Аднак М. Чаргінец, да яго гонару, не пайшоў падобным шляхам і, думаецца, у дадзеным выпадку яму вельмі спатрэбіўся вопыт, які набыў, пішучы свае творы з жыцця праваахоўных органаў. У тых творах, як вядома, таксама дзейнічала нямала персанажаў, якія грамадствам успрымаюцца, як бяльмо на воку. Але, увасабляючы іх вобразы, пісьменнік быў далёкі ад аднабаковай характарыстыкі. Для яго галоўнае заключалася ў тым, каб як мага паўней спасцігнуць тое, што ў чалавека на душы. Гэткім шляхам М. Чаргінец ідзе і раскрываючы вобраз той жа Сары Макоўлі ці, для прыкладу, спасцігаючы характар прэзідэнта фонду "За свабоду жанчын" Элізабет Богарт.

Можа ўзнікнуць заканамернае пытанне, а якое дачыненне да ўсяго гэтага маюць дэтэктыўныя элементы. А самае непасрэднае дачыненне. Раманам "Тайна авальнага кабінета" М. Чаргінец лішні раз засведчыў, што ён і сапраўды майстра гэтага няпростага жанру. Дэтэктыў па-Чаргінцу (як гэта бачыцца ў згаданым творы) — не адна нечаканасць і непрадказальнасць сітуацый і не толькі інтрыга, вытокі якой не так і лёгка спасцігнуць, што, безумоўна, выклікае ў чытача яшчэ большую зацікаўленасць, а і той жа псіхалагізм, які ніколі не адступае на задні план, калі аўтар, закручваючы сюжэт так, што ён пачынае нагадваць сабой упругую спружыну, ні на хвіліну не забывае аб неабходнасці заставацца тонкім аналітыкам паводзін, учынкаў.

А ў тым, што "Тайна авальнага кабінета"— дэтэктыў, якія ўдаецца напісаць нават далёка не кожнаму з прызнаных майстроў гэтага жанру, упэўнішся, загортваючы апошнюю старонку твора, на якой, як таго і вымагае дэтэктыўная традыцыя, і расстаўлены ўсе кропкі. Тады і высвятліцца, што лёсы двух персанажаў у рамане не проста перакрыжоўваюцца, а ...

Што было ў сапраўднасці, лепш прамаўчаць, бо чытаць дэтэктыў, загадзя ведаючы, чым усё скончыцца, задавальнення мала. А так кожнага, хто не паспееў пазнаёміцца з новым раманам М. Чаргінца, чакаюць захапляльныя хвіліны. Магчымасць жа адчуваць ва ўсёй паўнаце норавы авальнага кабінета выкліча і жаданне правесці і паралель з днём сённяшнім. А яна такая, што хоць Джон Макоўлі і развітаўся з прэзідэнцкім крэслам, ды макоўлі ў Белым доме не перавяліся.

Аднак гэта ўжо гаворка іншага плана, але тое, што раман падштурхоўвае яе — сведчанне не адных мастацкіх вартасцяў твора, а і таго, як М. Чаргінец умее па-майстэрску ўзнімаць вельмі надзённыя тэмы.

**Алесь ВІШНЕЎСКІ**

---

памыць па загадзе бессардэчнага начальніка галаву Леніна — помніка — падае і разбіваецца. Начальнік, паслаўшы нямоглую жанчыну на верную смерць, абураецца: "Навошта лезла? Хто паслаў?" На жаль, рэалістычнае апавяданне заканчваецца, на мой погляд, даволі нязграбна: "ён задраў сваю галаву на галаву Леніна. Высока. Дужа высока. Недзе пад самым небам яна, тая галава... А яшчэ вышэй ён убачыў бабу з мятлой, якую нават не ведаў як звалі". Тут адразу прыгадваецца Баба Яга і па сваёй сутнасці трагічны твор набывае недарэчную камічнасць.

Асобным раздзелам ідуць у зборніку так званыя маленькія былі — кароткія замалёўкі, сацыяльна-бытавыя сцэнкі, якія працягваюць тэматыку апавяданняў. З найбольш дасканалых вылучаюцца "Маці", "Вучоны заяц". У першай замалёўцы аўтар сцісла і ёмка малюе псіхалагічны партрэт старой вясковай жанчыны, маці міністра. Гледзячы тэлевізар, дзе паказваюць яе сына, які дасягнуў вяршыні сацыяльнай лесвіцы, вясковая кабета, уздыхнуўшы і абраніўшы слязу, ціха адзначае: "Цяжка дыхае Мішка, яшчэ горш, чым было. Астма мучыць..."

Другі твор "Вучоны заяц" мае ў сваёй аснове анекдатычную сітуацыю і распавядае пра "вялікага начальніка" і вучонага зайца бабы Марусі, які, паабяцаўшы выкасіць бульбоўнік, адлежваецца, усімі праўдамі і няпраўдамі адлыньвае ад працы. Гэта сцэнка мае гумарыстычны характар, напісана жывой, сакавітай моваю і адрозніваецца выразнымі дыялогамі. Стылёва яна звязана з аповесцю "Да неба камень не дакінеш".

Як можна прачытаць у кароткай анатацыі да кнігі, у цэнтры аповесці знаходзіцца цікавая жыццёвая сітуацыя. І гэта сапраўды так. Сюжэт даволі просты: вясковы кінамеханік і паштальён Мішка Арынавіч, ад'язджаючы на курорт, пакідае замест сябе на працы і ў хаце сяброў — Ігната Амерыканца, Ягора Чапуху і Трафіма Кіпціка. Праблема ў тым, што яны не спраўляюцца са сваімі абавязкамі. У выніку ствараецца шэраг камічных сітуацый, дынамічна разгортваецца сюжэт. Але ад жадання аўтара зрабіць яго больш захапляючым у творы дапускаюцца недастаткова рэалістычныя калізіі, у прыватнасці, слаба матываванай здаецца развязка аповесці. І ўсё ж яна больш дасканалая з мастацкага боку, бо, мяркуючы па часе напісання (1984, 1998 гг.), аўтар грунтоўна над ёй працаваў. У тканіне твора арганічна спалучаюцца гратэск, іронія, гумар. Адметная мова аповесці. Яна выразная, нязмушаная, нярэдка метафарычная і нават фразеалагічная. Узяць, напрыклад, такія дасціпныя выразы: "У галаве камары таўклі мак"," Менш гавары — больш пачуеш", "П'яніца ты з першай шарэнгі", "Не заўсёды добра сеўшы добра едуць", "Тая шапка, што ў краме ляжыць, вушэй не грэе" і інш. А вось як звяртаецца вясковы дзядзька Кіпцік да сваёй жонкі: "Ты... ягадка мая балотная... кветачка палявая... не псуй нервовую сістэму... а ўсё астатняе прыкупім. Усё прадаецца, а нервы ў вялікім дэфіцыце..." Зрэшты, жыццёвай мудрасці героям В. Ткачова не займаць.

Ну а цяпер, разгледзеўшы зямныя клопаты Васіля Ткачова, звернемся да вышыняў, да неба яго мастацкай прозы. Празаік сам красамоўна, яскрава гаворыць, што да неба камень не дакінеш, але пісьменнік у сваіх творчых дасягненнях можа дастаць неба. Мяркуючы па лепшых творах В. Ткачова, празаік надзелены даволі вялікім творчым патэнцыялам, але дзеля далейшага поспеху яму, на маю думку, трэба пазбаўляцца прызямленасці і, карыстаючыся сваім значным жыццёвым вопытам, выходзіць на больш шырокае і аб'ёмнае мастацкае асэнсаванне рэчаіснасці.

**Наталля ДЗЯНІСАВА**

---

**УРАЖАННЕ**

...Тое, што мы шукаем, ці можа быць тут, дзе мы ёсць? — гэтая інтуітыўная думка-пачуццё прымушае верыць у відушчасць паэта, які, бы павадыр сляпых, вядзе нас па сцежках, якія бачныя яму аднаму. І дай Бог, каб тыя сцежкі выводзілі ў новую прастору і новы час, а не ў сферу замкнёнага, дзе скажаш слова — і не пачуеш водгуку, чаканага адтуль, дзе яшчэ не былі...

Таму кожная новая асоба, якой удаецца выйсці па-за сябе ў сваіх творах, заслугоўвае ўвагі.

Перада мной — зборнік вершаў "Спрабую хадзіць", які выдала паэтка Гала Гара. Кніжка выйшла пад маркай Таварыства вольных літаратараў пры падтрымцы каардынатара суполкі Алеся Аркуша.




Да гэтага творчасць паэткі была вядомая мне толькі па адным вершы — "Афэлія правінцыі", які друкаваўся ў часопісе "Калосьсе". Але ўжо тады

# «НАПОЎНІЦЬ КРЫЛЫ ВЕТРАМ...»

верш і імя аўтаркі прыцягнулі маю ўвагу.

"Спрабую хадзіць"... Назва гэтая адначасова — і сімвал, і метафара. Ужо прачытаўшы кніжку, мне адразу згадаліся разанаўскія птушкі, якія адводзяць ад сваіх затоеных гнёздаў. Таму занадта проста ды й памылкова было б тлумачыць гэтую метафару ў рэчышчы "першых крокаў паэта"... Пайсці па гэтым шляху — значыць ухіліцца ад разгляду таго істотнага, сутнаснага, што прысутнічае ў паэзіі Галы Гары.

Зборнік адкрываецца вершам:

*і вартаваць спакой старанна*
*не ўберагчы*
*ў вадзе глыбокай раньнім рана*
*згубіць ключы*

*і весяліцца і дзяўчынкай —*
*на стрымгалоў*
*і паміраць без дай прачыны*
*і жыць ізноў*
*і плакаць і губляць трываньне*
*і зноў чакаць*
*ці ўкрыжаванне ці адхланьне —*
*ці варта знаць*

Дзяўчынка, што "згубіла ключы", не заблукае ні ў цёмным лесе, ні ў людным незнаёмым горадзе, ні ў родным мястэчку, якое, мяжуючы з напаўвысахлымі балотамі, ужо не ёсць ні чужым, ні родным. "Згубіць ключы" — здабыць волю і адамкнуць дзверы, да якіх трэба проста прыкласці далонь. Мінулае і ўспаміны знітаваны ў адно разам з будучыняй, якая праходзіць праз сны і, нібы на экран, "транслюе" на слых і зрок адну за другой карціны і вобразы.

У адным са сваіх вершаў паэтка "сведчыць": людзі спілоўваюць старыя дрэвы, каб пазбавіцца крумкачоў, што наклікаюць бяду. Усвядомленае жаданне — пачаць усё спачатку, пакінуўшы гнятлівы цяжар стогадовых дрэў, крумканне чарнобыльскіх птахаў. Насадзіць маладыя дрэўцы..." і ў цені шатаў іх, нарэшце, знойдзе мой народ сабе спачынак".

Ды прысутнасць птушак і дрэў у іншых вершах паэткі сведчыць аб дыялогу, які працягваецца між імі і ёй.

...Не даючы парады птушкам, як трэба лётаць, дрэвы, тым не менш, могуць дапамагчы — нашаптаць сваім голлем, дзе ўтульнае месца гнязду, дзе знойдзе спажытак птушка — расскажа дрэва, што чула ад іншых птахаў. Ды дрэва — жывое, і гаворыць з жывым. А тое, што бачыцца часам ч а л а в е ч ы м вачам, тое, што выступае з-пад расталага снегу — рэшткі спадзяванняў, рэшткі сноў, замкнутых на мінулым, — "асклелыя парэшткі леташніх трупаў". Навакол — яшчэ нерасталы снег, мёртвы, халодны, вада, што замерзла ў нябёсах. То лепей — "напоўніць крылы ветрам і тады — прасіць у ночы зорнай дараваньня, за водбліск горных сноў, за досьвед горкіх слоў, за немач нематы, за дробязнасьць жаданьняў"..

Але — не прэч адсюль. Той край зусім побач з намі. Схіліся да ліста паперы — і ты ўжо там... І выводзяць грачкой гракі, каб "шпурнуць у неба", і ўзлятае твой стрыж з рукі — і не шукае атруты ў вадзе чарнобыльскай зоны, — спатольвае смагу...

...Ці ж не ад бяссілля — нашыя страты? Ці не ад таго, што баімся падняць каменьчык — а хочам дом збудаваць, каб дзецям было дзе жыць. Хочам ісці — і каб не стаміцца ў доўгай дарозе. Птушкі не помняць? Яны праходзяць свой круг, свой шлях, дорачы птушанятам крылы і зямлю. Нам жа — "падораны" птушкі і зямля, сады і палі. Ды не пажадаць жа сабе няведання, няпамяці. А што пажадаць дзіцяці? Каб не ведала, што ў малацэ і ў траве — атрута? А найболей — у памяці, што некалі было інакш. Хіба што — раскажуць бацькі.

Калі ж навокал хлусня, калі збыткуюцца з праўды, паэтка паніжае голас... Каб было чутно тым, хто яшчэ не аглух. Як у вершы, прысвечаным В. Быкаву:

*...Ціха праўду сказаць,*
*Але так, каб другія пачулі;*
*Ціха праўду сказаць,*
*І стаяць за яе да канца.*

Ды перш чым сказаць, мусіш пачуць.

...Хадзіць па сметніках, па садах ля зрушаных з месца і кудысьці пазнікалых хацін. Як бы амаль сыходзіць з вузкіх і шырокіх вуліц, як бы амаль сыходзіць з наваколля, пакідаючы сябе на ўскрайку жыцця, знаходзячы свой лёс па зорах, што варожаць. Назіраць вакол сябе за светам і здзіўляцца: дзе ж тая "краіна святла", дзе б мусілі жыць людзі?

...Праходзіць час — і станчаецца той пласт душы, што жывіўся ўспамінамі маленства, дарагімі вобразамі блізкіх. Тады мацней пачынаюць гучаць галасы наваколля, і з'явы прыроды выходзяць па-за сябе і становяцца музыкай, ледзь улоўным матывам, які пазнае душа. Так гучыць дождж у вершы "Афэлія правінцыі".

Гэты верш — сапраўдная ўдача паэткі. Ён мне нагадвае спіраль, якая ўвабрала ў сябе і дождж, і танцпляцоўку ў старым парку ля аўтастанцыі, і яе — Афэлію.

Што адбываецца? Яна кладзе яму рукі на плечы, хавае вочы ў каўнер... Парк пачынае рухацца, хоць яны стаяць нерухома. Нерухомы танец, калі той, хто абняў яе за плечы, у чый каўнер яна хавае "казачныя вочы", — ён заўважае, што паміж словамі "чакай" і "бывай" толькі некалькі нерухомых п а — па прыступках дажджу, пад уздыхі старога парку, пад ускалых таполяў...

Хто мы такія? Чаму гаворым, калі навокал маўчаць, і маўчым, калі навокал гавораць?

Не, мы не лісце, што носіцца ветрам пачуццяў. Але й не дамы, што стаяць на цвёрдым падмурку. І калі мы часам сыходзім, рэзкім словам абрываем ланцугі былых сяброўстваў, чалавечых стасункаў, у якіх жыве хоць каліва няшчырасці, — ці можна ў гэтым папракнуць нас?

...Бо на нашых ветразях вышыты імёны тых, хто чакае нашага вяртання.

**Віктар СЛІНКО**

# ВЫЙСЦІ ПРАЗ ДЗВЕРЫ

Чытаючы кнігу Наталлі Капы "Бэзавыя дрэвы" (што выйшла летась), я правёў такое няхітрае даследаванне: "расклаў" усе вершы па прынцыпу прысутнасці ў іх тых ці іншых тэм і вобразаў. І што атрымалася? Самай распрацаванай і шматлікай па прадстаўленасці ў зборніку аказалася тэма спакою. Але не бунінскага спакою свабоды і замірэння, а спакою змушанага, з прысутнасцю нейкай прыгнечанасці. Нібы ты пад каўпаком (ці ў замкнёным коле) і ведаеш: што-небудзь актыўнае прадпрымаць бессэнсоўна. Таму даводзіцца шукаць праявы хараства і прыгажосці (гэта ж натуральна для чалавека!) і ў такіх варунках. Часам у творах прыгнечанасць саступае месца нейкаму паўсну, зачараванасці, але ўсё роўна: над галавой — той жа каўпак. Вакол скупая зімовая або позневосеньская прырода: рэдкае драбналессе, нязграбныя лапці-кусты, крывыя нізкарослыя дрэвы, скаванае марозам балота, сухі трысьнёг... І ў гэтым замкнёным няўтульным свеце натуральна нараджаецца міф аб прыгожым мінулым, аб колішнім "залатым веку" (і не важна, быў ён на самай справе ці не). Сярод балот і лесу на месцы старога замчышча мроі аўтаркі нараджаюць вобраз нарвежскай прынцэсы, што ў дымкавым строі ўзбягае на высокі вал. А вось, здавалася б, зусім іншае: залатое лісце, што "Пад нагамі спалася / У ахвоту", "Асыпала голавы / Нібы з вёдраў", "А цяпер на доле яно / Ціха чэзне".

Калі некалі быў "залаты век", а цяпер свет, у якім жывеш, стаў няўтульным, натуральна ўзнікае пытанне: чаму так адбылося? Аўтарка не адказвае прама на гэтае пытанне, але мне было цікава знайсці сярод яе вершаў тыя, дзе прысутнічае тэма парушанасці душы і, як мне здаецца, блізкая да яе тэма бруду, што хаваецца за аблічам прыгажосці.

Усе вершы, пра якія я гаварыў вышэй, былі напісаны Н. Капай у 1996—1999 гадах. А што было раней, хай ужо не ў "залаты век", дык у час, калі аўтаркай яшчэ не завалодала тэма прымушанага спакою (як я яго вызначыў)? І Наталля нам прадстаўляе магчымасць даведацца аб гэтым — большасць твораў пазначана часам напісання. Мне ўдалося знайсці тры вершы, напісаныя ёй яшчэ ў 1993 годзе. Яны вельмі адрозніваюцца ад астатніх (карыстаючыся выразам Зміцера Вішнёва — рэдактара кнігі) шчымлівым лірызмам, нейкай юначай чысцінёй. Ва ўсіх іх прысутнічае вобраз лебедзя, як увасабленне гожага і светлага. І разам з тым — матыў страты, але не далёкай, а жывой, блізкай, якая адбываецца вось цяпер:

Мушу цябе не прыкмеціць
І моўчкі прайсці, бы ўва сне.
Акальцаваны мой лебедзь,
Што ты пакінуў мне?

Варта таксама зазначыць, што кніга Н. Капы не дае выйсця з замкнёнага кола прыгнечанасці, але ў нейкіх нешматлікіх творах гэта самае выйсце прадбачыць. Глядзіце вершы "Світанне", "У павуціні тонкіх мокрых дрэў...". Апошні канчаецца радкамі:

...Пад шэрым хмурым небам,
Дзе цяжка дыхае халоднае паветра,
У лесу цёмных змрочных нетрах
Успыхнула вясна.

Або верш "На Раство". У вобразе Дзіцяткі ў яслях бачыцца прадчуванне нечага новага, светлага, што зараджаецца ў нетрах змроку.

Цікава і тое, што аўтарка, так і не знаходзячы выйсця з гэтага замкнёнага кола, не знаходзячы "дзвярэй" — натуральнага ўнутранага развіцця асобы ў кірунку, што з гэтага кола выводзіць, у рэшце рэшт, нейкім дзіўным чынам аказваецца па-за ім. Покуль што (мяркую зыходзячы з вершаў кнігі), я не магу пазначыць мяжы яе новай зямлі: бачу толькі дзе-нідзе пакінутыя "вогнішчы". Гэта і крыху урбаністычны верш "Прысутнасць рэчаў", і іранічны "Нечакана, неспадзеўку / Стала я паганай дзеўкай...". І мініяцюры, дзе аўтарка часам даволі тонка перадае дух адпаведных жанраў японскай паэзіі.

Не ведаю, якімі шляхамі далей пойдзе паэтка Н. Капа, але, несумненна, яе яшчэ не раз наведае спакуса выйсці праз "дзверы".

УСЕВАЛАД ГАРАЧКА

## ПАЭЗІЯ

Мікола ШАБОВІЧ



### З НІЗКІ "ЛЯСНАЯ НІМФА"

•

*Нібы з юначае пары*
*Вярнуў хвілінкі, —*
*Мне лес зімовы падарыў*
*Дзве журавінкі.*

*Здаецца, шмат было прычын*
*Маёй самоце,*
*Ды ўбачыў пару журавін*
*Не на балоце...*

*Як маякі сярод снягоў*
*Наўзбоч лагчынкі —*
*Дзве журавінкі усяго,*
*Дзве журавінкі.*

•

*А ты — снягоўна-завіруха,*
*Ты — ачышчэнне ад маны.*
*Чаму ж тады ў паглядзе скруха,*
*Нібы ад нейкае віны?*

*Магчыма, тоіш ты загадку*
*Ці таямніцу з таямніц?*
*Калісьці так і Ненаглядка*
*Свой тварык апускала ніц.*

•

*На вуснах тоіцца сакрэт,*
*Мной не адкрыты.*
*Пунсова-чорны твой партрэт*
*Журбой спавіты.*

*Свае скідаеш кайданы —*
*Хутчэй на волю,*
*Дзе белы снег мяцеліць сны*
*Над чыстым полем.*

*Палоска барвы — нібы сцяг.*
*(О, так — ты німфа!)*
*Здаецца, што застыў прасцяг*
*І час спыніўся.*

### ДЗЕНЬ СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА

*Лёгкі прыцем, і ты, і зіма,*
*І спакусных вачэй каралеўства.*
*І ратунку бадай што няма*
*Ад твайго ці зімы чарадзейства.*

*Што ж, чаруй, спакушай*
*не на жарт,*
*Покуль дзён яшчэ многа ў Бога,*
*Покуль мары салодзіць азарт, —*
*Сёння ж — Дзень Валянціна*
*Святога.*

•

*Ва ўладаннях зімы*
*Ты сябе адчуваеш не госцяй.*
*Хто напіша тамы*
*Пра абсягі тваёй прыгажосці?*

*Ты й сама — як зіма:*
*То гудзіш, то цалуеш употай.*
*Болей сілы няма,*
*Каб змагацца з тваёю пяшчотай...*

*Гэта снег чараваў*
*Ці тваё спакушальнае цела?*
*Я ледзь-ледзь паспяваў*
*Запісаць, што сказаць ты хацела...*

•

*Зімовай казкі вэлюмны салон,*
*Пяшчотных рук спагадлівае сола*
*Мяне ўзялі ў спакусліві палон,*
*Адкуль ужо не выбрацца ніколі.*

*Сярод снягоў пунсовіць, нібы сцяг,*
*Твой новы шалік, што сама звязала.*
*Нас абвянчае заўтра Млечны Шлях*
*Дзесь на мяжы паштамта*
*і вакзала.*

•

*Зіма пісала твой партрэт*
*І ад твайго святога цела*
*Ужо, здаецца, не люцела,*
*Адно табе глядзела ўслед.*

*І гэтак марыла яна*
*З табой, свавольнай, падружыцца,*
*І ў снежным вальсе закружыцца,*
*І мілавацца давідна.*

*Такая дзіўная зіма...*
*І ўсё ж віны яе ніколькі,*
*Бо чараўніца — ты сама,*
*Зіма — твая служанка толькі.*

•

*Пажухлі кветкі на тваім прычале,*
*Няўмольны час ляціць*
*імкліва-спешна.*
*"А мне такія вершы*
*прысвячалі!.." —*
*Гаворыш ты ўзрушана-няўцешна.*

*І сапраўды, ты вартая такога —*
*Увасабленнем быць зямной свавольі.*
*А жонкай стаць і не кахаць нікога —*
*Усё адно, як вольнай жыць без волі...*

*Табе такія вершы прысвячалі,*
*Што ўпрыгажэннем станучь*
*хрэстаматый.*
*Але пажухлі кветкі на прычале,*
*І толькі мары ўспыхваюць крылата.*

### МАЯ НАДЗЕЯ

*Калі прарочацца расстанні*
*І рэй сяброў штогод радзее,*
*Ёсць у мяне выратаванне —*
*Мая надзея.*

*Яна, як сонейка ў сінечы*
*Ці ў лузе ваблівая краска,*
*Падорыць новыя сустрэчы,*
*Сагрэе ласкай.*

*Хай цуда-сонейка ў нябёсах*
*Праз цэлы дзень зіхотка зззяе*
*І нашы мары, нашы лёсы*
*Пераплятае,*
*Пераплятае,*
*Пераплятае...*

---

Ніна РАДЗІВОНЧЫК

### ПАМЯЦЬ МІНУЛАГА

*Мы стрэліся з табой,*
*калі мяцеліца*
*Забельвала ўсе восені сляды,*
*Нам гэтак жа, як ёй, хацелася*
*Пазбавіцца ў жыцці ад чарнаты.*

*Так спадзяваліся: усё засцелецца,*
*Не будзе больш ні крыўды, ні тугі,*
*Што не дарэмна*
*забыцця мяцеліца*
*Старанна сыпле белыя снягі.*

*Паверылі —*
*былыя шчасці, болі*
*Схаваў у сэрцы маразоў сувой.*
*Па белай беласці пяшчотна,*
*як ніколі,*
*Мы асцярожна рушылі з табой...*

*Жахнуліся, убачыўшы тады,*
*Як набрынялі, сталі чорнымі*
*сляды.*

•

*Адцвітае сад. І кветкавеі*
*Навяваюць смутак і тугу.*
*Нехта скажа: так прыходзіць лета,*
*Мне ж здаецца — не пялёсткі гэта,*
*Бачу я асеннюю смугу,*
*А за ёй прыслужніцы-завеі*
*Ужо нясуць*
*мяцеліцу-зіму.*
*Час квітнення...*
*Ён такі кароткі.*
*(Дорыць то гаркоту,*
*то пяшчоту, —*
*як каму.)*
*Але і за кветкі,*
*і за спеласць*
*вінаградныя гронкі,*
*Удзячныя, паклонімся яму.*

•

*Пад птушыным крылом*
*Нараджаюцца дрэвы і травы,*
*І растуць, і красуюць,*
*Палошчуцца ў ветры*
*пагодлівым днём,*
*У таямніцы начэй у трывозе*
*чакаюць,*
*Каб зной сонца,*
*як цуд,*
*узышло над зямлёй.*

*Пад птушыным крылом*
*Мы вяселлі, народзіны правім,*
*І, спазнаўшы жыцця кругалом, —*
*У шматколерным свеце*
*Што свеціцца матчынай казкай*
*і ласкай, —*
*Мы на вечны спачын*
*Бессмяротнымі часта*
*ідзём —*
*Што пасеем — тое пажнём.*

*Мы сягнулі высока,*
*не толькі ў марах —*
*Не пачуць у радарах*
*гулу пчол над садком —*
*Але нам не забыць,*
*што адзіным ратункам і раем*
*Свет шматколерны,*
*з матычнай казкай і ласкай,*
*Нас з надзеяй чакае.*
*Пад птушыным крылом.*

•

*Ты памятаеш: білі перуны,*
*Імгненны позірк навальніцы*
*Зямныя бачыў таямніцы*
*І нас з табой ля маладой сасны.*

*Сасна цвіла. Вады навала*
*Той цвет да нашых ног*
*змывала...*

*Няўжо тады каханне ўпала*
*Да нашых ног*
*тым — пылам жоўтым?*



# НАВЕЛЫ

Ганад ЧАРКАЗЯН



## Куфар

Жаноцкая доля, як ракіта ў полі. Першы раз цётка Лейла выйшла замуж як належыць, па традыцыі. Спачатку прыйшлі на ўгледзіны, потым былі заручыны, дзе ўпершыню праз шчыліну ў дзвярах убачыла свайго будучага мужа. Пасля даведалася, па якой цане ўступіў яе бацька, які калым быў вызначаны за яе. Хоць калым — гэта болей даніна рытуалу, бо складае нікчэмную долю таго, што даюць маладой з сабою. Зразумела, чым даражэй просяць, тым больш гонар нявесце, тым багацейшы пасаг.

У першае замужжа не пашанцавала цётцы Лейле. Муж адно глядзеў, з кім бы пасварыцца ды пабіцца, а гаспадаркай не займаўся. І без пары загінуў у адной з боек. І засталася маладая замужніца з маленькім сынам на руках адна. Заставацца ў сям'і мужавай не магла. І па ўзаемнае згодзе вярнулася Лейла ў бацькоўскі дом. Лічыла, што шчасце адвярнулася ад яе й дні свае збіралася дажываць адна, гадуючы сына. І калі сыну стала пятнаццаць гадоў, маці сказала:

— Пара, сынулька, жаніцца.

— Хачу жаніцца,— адказаў адразу сын і назваў імя дзяўчыны.

Лейла ўзрадавалася, што ўсё паўтарылася. Адгулялі вяселле. Малады муж хадзіў сабе ў школу. На Усходзе на такое не зважаюць. Праўда, маладуха не захацела быць школьніцай, ёй хапіла ўрокаў у школе жыцця. Праз год, на свае трыццаць гадоў, Лейла стала бабуляй. Магчыма так бы ў бабулях і пражыла, каб не вялікодныя свята.

А Вялікадне курды-езіды святкуюць урачыста, пільнуючыся векавых традыцый. Гаспадыня дбае пра едзіва, у асноўным расліннае. Устаюць да світання, ядуць і могуць яшчэ крыху паспаць. Потым цягам усяго дня нельга й дакранууцца да ежы. Вячэраюць, калі ўжо сонца зойдзе. І доўжыцца Вялікадне колькі дзён.

Сталася так, што якраз перад Вялікаднем Лейла ўпершыню патрапіла ў вялікі горад. Прыехала тое-сёе купіць як галава ўжо самастойнай сям'і. Пасля вяселля сына Лейла атрымала, як і ўсе ейныя браты, сваю долю ад бацькі. Бацька выдзеліў новай сям'і ўсё неабходнае і ў дадатак пасаг унукавай нявесце. Яны ўжо жылі асобна й мусілі ўсе звычаі й абрады ладзіць самастойна.

І ў вялікім горадзе сустрэла Лейла свой лёс. Быў гэты лёс цыбаты, худы й шустры. А звалі яго Калаш. Вольны як птах Калаш меў свой агмень. Сын у Лейлы меў сваю сям'ю, а значыць і яна магла лічыць сябе птушкай, якую вабіць воля. І зачасціла ў горад, пакуль аднойчы так і не вярнулася дадому. І выйшла замуж за цыбатага Калаша без вяселля, без шанавання звычаяў і абрадаў. Усё не так, як належыла па-курдску. Дома гэтае замужжа палічылі за абразу й махнулі рукой на Лейлу й на ейнага Калаша.

Лейла адразу дала свайму новаму мужу мянушку Конік. А быў гэты Конік на пятнаццаць гадоў старэйшы за Лейлу й з адной нагой. І добра скакаў пад жончыну дудку.

Час ішоў. У лепшы свет пайшлі Лейліны бацькі й сведкі жаніцьбаў. Дзяцей у іх не завялося. Лейла сустракалася з сынам і ўнукам, падтрымлівала маладую сям'ю. Калаш у сустрэчах маці з сынам удзелу не браў, толькі жартаваў, што належны калым ён ахвотна заплаціць Лейлінаму сыну. І насамрэч дапамагаў так часта, што пазайздросціць льга было. Ды ўсё роўна ні Лейлін сын, ні ейная радня ўсур'ёз Коніка не прымалі, ніхто яго ні разу не бачыў.

І, як заўсёгды, Лейла прыехала да сына адна. І захварэла. Ды ў самы разгул хваробы атрымала сумную вестку, што памёр Конік Калаш. Паехаць пахаваць мужа Лейла не магла й папрасіла сына ўзяць на сябе сумны клопат. Сын сабраў сяброў і пахавальшчыкі паехалі ў горад.

У трупярні барадач неакрэсленага ўзросту адразу забурчэў, забубнеў, патрабуючы пашпарт. Хоць яму было зразумела, што не бывае ахвотнікаў забіраць чужога нябожчыка. Ды калі барадач атрымаў магарыч, палагаднеў.

— Вось, вось ён тут, калі нікуды не адыходзіў,— па-магільнаму пажартаваў барадаты наглядаты.

Хоць, гледзячы на трупярніка, можна было паверыць, што ў яго й нябожчыкі пабягуць у краму па пляшку, каб на трох змікіціць. Атрымаўшы яшчэ ў лапу, трупярнік згадзіўся памыць нябожчыка, пагаліць і апрануць па-гарадскому, "прыходзьце праз дваццаць хвілін, усё будзе зроблена",— запэўніў і пайшоў.

Зразумела, што дваццаці хвілін на такое мала, але ўсе прамаўчалі. Лейлін сын ведаў, што пахаваць па-курдску няма як. Нешматлікія суседзі й сябры Калаша засмуціліся, калі труну адразу павезлі на могілкі, так і не адчыніўшы. Адна залева шчодра аплакала нябогу.

Пахавалі на агульных могілках, бо гэта ж горад. Толькі ў малых пасельбішчах асобныя могілкі і ў курдаў, і ў армян, і ў грузінаў.

Па часе Лейла ачуняла, вярнулася ў асірацелую кватэру. Аплакала з суседзямі свайго Коніка. Па звычаі згатавала мясную страву, раздала ўсім блізкім і суседзям.

Вечарам, калі абсохлі слёзы й заціхлі спачуванні, Лейла з сынам пачалі разважаць пра жывое. Як жыць? Дзе жыць? Ці не вярнуцца Лейле да сваіх? Лейле хацелася дадому. А што рабіць з небагатай Калашовай набыццю? Адзін толькі куфар займаў як не палову жытла. Вырашылі — у вёсцы ён прадасца. Адчынілі куфар...

Старыя аблігацыі, як і гаспадар куфра, былі ўжо мёртвыя. Нейкія паперы, даведкі, пасведчанне. І чамусьці ў куфры ляжаў яшчэ парашут і пратэз нагі.

— А гэта навошта? — запытаўся сын.

— Запасная нага майго беднага Коніка,— прасляпілася маці.

Сын зніякавеў. Узгадаў нябожчыка з абедзвюма нагамі й маўчком сеў на рыпучае крэсла.

— Што з табой, сынок?

— Усё нармальна, усё добра...

Зразумеў, што й жыць і паміраць трэба, шануючы традыцыі продкаў... Бо некалі могуць пахаваць некага замест цябе...

## Туга

Што адзіная дачушка ў бека збегла з млынаровым сынам, уся акруга даведалася тады, калі закаханая двойца была далёка ад родных мясцін. Дапамагла, як заўсёды, цёмная ноч.

Бек быў багаты, аж надта. Звышні даў дачку й неўзабаве забраў жонку ў бека. І так ён кахаў сваю жонку, што пасля ейнае смерці й падумаць не мог пра іншую жанчыну. Да шаснаццаці гадоў кунежыў бацька сваю адзінотку. Вядома, разумеў, што рана ці позна птушачка пырхне з залачонай клеткі. Толькі не так рана й не так да крыўды нечакана.

Спачатку бек узлюцеў на млынцову радню, дакляраваўшы ўсіх забіць і хаты іхнія спаліць, каб і слядоў ніякіх не засталося ад злога племя. Ды слова не стрымаў, бо дужа любіў дачку й не хацеў рабіць ёй горка. Бек быў чалавекам разумным і ведаў, што жорсткасць спараджае жорсткасць, нянавісць — адпаведна нянавісць, кроў — кроў. А любоў спараджае любоў. Душа ў бека была адходлівая. І цягам часу праз пасрэднікаў наважыўся перадаць, што даруе й дачцэ й зяцю іхны абрыдлівы ўчынак, і просіць іх вярнуцца з мірам у бацькоўскі дом...

А двойца як вадой разлілася. Ці са страху, ці з якога разліку. Дужа далёка закаханыя, поўныя сілы й энергіі, поўныя мілосці, ратавалі ад людской чэрствасці сваю зорную мілосць, ад суравеяў абыякавасці агмень чыстай жарсці. Адно туга па бацьках, па родных котлішчах не пакідала ні на хвіліну. І жылі маладыя трывожнай надзеяй, што сцяжынка, якой яны збеглі, верне іх назад, і будуць яны зноў сярод сваіх родных і дарагіх. Але страх згубіць набытае шчасце быў мацнейшы.

І жылі яны доўга й шчасліва. І раслі ў іх і сыны й дочкі. Яны старэлі, дзеці дараслелі, мужнелі й прыгажэлі. Не старэла толькі адно пытанне, якое баяліся сабе задаваць. А час ішоў, і нічога наўкола, здавалася, не змяняецца. Сонца ўзыходзіла і заходзіла як і заўсёды. Дні поўніліся працай і клопатам. Даліны й лясы жылі сваім жыццём. І горы высіліся нязрушна.

Зношаны жыццём і часам, першым адышоў той, з каго зачынаўся й на кім трымаўся гэты маленькі род. Жонка, сыны й дочкі пахавалі яго, сваю апору і заступніка, як умелі. І ў вялікім супярэчлівым свеце зрабілася меней дабра й мілосці. Бацька й муж панёс з сабой цэлы свет думак, мрой, надзей, якім ужо ніколі не здзейсніцца.

Застаўшыся без галавы, сям'я не кінулася назад — у вір далёкага і ўжо грунтоўна забытага жыцця, дзе і людзі на іх забыліся.

Здавалася, можна было адважыцца на першы крок. Але кроку гэтага ніхто не ступіў. Дзеці чакалі, на што адважыцца маці, а яна не магла пакінуць зямлю, якая супакоіла ейнага адзінага. І дзяцей штосьці трымала.

Не доўга трывала тугу па мужу любячая жонка. На досвітку ціха сканала на мулкім драўляным насціле, што доўгія гады быў ім мяккім і спрыяў шчасцю іхняму.

Цяпер ужо сыны й дочкі не маглі пакінуць бацькоў адных у гэтай зямлі і вярнуцца ў невядомы ім свет. Быў выбар, але перамог абавязак.

З кожным годам менела й менела некалі вялікая й шчаслівая сям'я. Засяляўся могільнік. І калі ад усяе сям'і застаўся толькі малодшы сын, ён не вытрымаў. Са слязамі на асірацелых вачах развітаўся з роднымі магілкамі ды са зламанай горам і адзінотай душою наважыўся ў шлях далёкі й невядомы. Але на сёмы дзень дарогі не вытрымаў і вярнуўся назад. Бо радзіма там, дзе нарадзіўся й вырас і дзе магілы блізкіх.

З тае часіны, калі каму сустракаўся ў лесе ці ў гарах барадаты, у лахманах чалавек, узгадвалася гісторыя пра закаханых уцекачоў і апошняга іхняга сына.

Кажуць, што ён часта робіць спробы пайсці да далёкіх невядомых родзічаў, ды на сёмы дзень нязменна вяртаецца да старой абымшэлай будыніны, якая называлася домам.

Ён пэўны, што чыніць правільна, што жыць без мінулага — жыць без памяці. Ён пэўны, што кожны на зямлі мае сваю адметную дарогу й свой адрозны лёс, які яшчэ нікому не ўдалося пазбегчы.

Ні бек, ні млынар так ніколі і не даведаліся пра лёс сваіх дзяцей.

## Зуб

Бабуля сустракала яго заўсёды адным і тым жа пытаннем:

— Ты будзеш есці, унучак?

І тут жа, не чакаючы адказу, спяшалася на кухню.

— Буду, абавязкова буду,— наўздагон адказваў унук.

Гэтыя пытанні й адказы былі як бы рытуалам, які задаваў рытм штодзённасці.

І ўвесь клопат па гаспадарцы ляжаў на руплівай бабулі. Усё рабіць яна паспявала, на ўсё хапала яе. Рэдка турбавала ўнука якімі-небудзь даручэннямі. Ні на што бабуля не скардзілася. Толькі часам пыталася, чаму людзі не маюць міру спаміж сабой, чаму яшчэ маладыя людзі капаюцца ў сметніках замест таго, каб вучыцца ці працаваць.

Багата гадоў таму здарылася знянацку бяда — не стала любай дачкі, якая адна гадавала маленькага сына. Бабуля заняла ейнае месца, замяніла хлопчыку бацьку, маці, сябра й дарадцу. Былая настаўніца прыйшла да высновы, што ад лёсу ні схавацца нікуды, не ўцячы. Дачка нейкім чынам паўтарыла матчын пачатак жыцця. Ранняе няўдалае замужжа, гаркота гадаваць дзіця без бацькі. А яму яна прарочыла самую светлую будучыню.

Калі ажаніўся ўнукаў сябра маленства, бабуля дужа ўзрадавалася. Зацепліўся ў душы спадзеў, што неўзабаве мусіць ажаніцца й каханы ўнучак. Яна не ўтрымала слёзы, калі маладая двойца наведалася ў госці. Тым вечарам бабуля падаравала маладой ажурны пярсцёнак, што затаіўся ў яе з няма ведама якіх часін.

— Гэты пярсцёнак прынясе вам шчасце,— сказала яна ды зноў заплакала.

Потым тлумачыла, што плачучы, жанчыны адорваюць асаблівай цеплынёю.

Маладая двойца заходзіла да іх часта, і бабулі было гэта даспадобы. Яна болей не плакала, а ўпарта нагадвала ўнуку ўзяць прыклад са шчаслівых.

Бег бесклапотных дзён раптоўна спатыкнуўся. Бабуля занядужала. Выклікалі "хуткую дапамогу". Маладзенькая дактарка сурова загадала: зараз жа ў лякарню...

Здарылася ўсё напярэдадні вялікага свята. Унук паспяшаўся ў лякарню ўслед. Па дарозе купіў букет хрызантэмаў, чым здзівіў жанчын у палаце. Спалатнелая ляжала бабуля. І ўнук адчуў, як у яго ў грудзях нешта абарвалася. Ужо адыходзячы, ён азірнуўся, і праз слёзы не ўбачыў бабулю. Упершыню па-сапраўднаму спалохаўся.

Бабуля дагарала, як тая свечка, да апошняга ўсхліпу грэючы й светлячы ягонае жыццё.

Як не сваімі нагамі дастаўся дамоў. Лёг у ложак. Прабегся вачыма па загалоўках газеты. Крадуць. Забіваюць. Турмы, як трумы караблёў... Ціха скрыпнулі дзверы. У прахоне дзвярэй сяброва жонка... Па-змоўніцку падміргнула й праслізнула ў пакой, шчыльна зачыніўшы іх за сабой. Паспрабаваў уставаць, але яна ўладна й пяшчотна спыніла ягоны наіўны супраціў. Ейныя дагледжаныя й доўгія, як стрэлы, пальцы клаліся яму на грудзі. І маладая жанчына дасведчаная ў такім клопаце, паступова агаліла спачатку плечы, потым грудзі...

— Вазьмі ад жыцця самае лепшае,— упершыню зашапталя яна, прыціскаючыся да яго сваёй пяшчотнай агаленасцю, распальваючы пажар жарсці.

Тушыць гэты пажар было няўзмогу. Дый навошта. А бабуля яго патушыла. Паўстала над імі, як каменны выдаўбень, і заплакала. Наўзрыдзь. Як ніколі. Маладая прыгажуня як узнікла, гэтак і знікла.

Хацелася сканаць, праз зямлю праваліцца, каб не бачыць бабуліных вачэй. Ды тут ад знянацкага моцнага ўдару ўнук ачуняў. Ліхаманкава хапаў паветра, як рыбіна, выкінутая на пясок, і адчуў нязвыклы прысмак у роце. Правёў языком па зубах. Адзін, як костачка, апынуўся пад языком, а другі бездапаможна хістаўся. Выплюнуў зуб разам з крывёй.

— Гэта мой апошні ўрок. Выходзіць, што дарэмна пражыла я сваё жыццё,— сказала бабуля з горыччу.

Марудна адвярнулася. Выйшла з пакою. Запыніць яе было немажліва.

Выбіты зуб. Прасцірадла ў крыві. Цяпер доўга не мець спакою, не ўсміхнуцца радасці. Праўда, другі зуб выстаяў, і тое крыху суцешыла. Ды як ён пасля такога выйдзе з пакою? Што цяпер рабіць?

Апрануўся паволі, прывёў сябе ў парадак і апрануты зноў прылёг. Вачам зрабілася цёпла ад слязаў. І тут адчуў, што нехта тармосіць яго й як бы выцягвае падушку з-пад шчакі.

Над ім стаяў засмучаны сябра, а побач, нахіліўшы галаву, плакала сяброва маладзёнка.

— Уставай,— задрыжэў сябраў голас,— бяда... Пара ехаць...

Намагаючыся не глядзець сябру ў вочы, даткнуўся да зубоў. Усе цэлыя!

— Што здарылася ? — запытаўся ён, пашукаўшы вачыма сляды крыві на прасцірадле.

Ні следу.

Сябра цяжка вымаўляў словы, як камяні варочаў:

— Уночы зрабілі аперацыю тваёй бабулі... Сэрца не вытрывала...

"Дык яна сёння не прыходзіла дадому? Значыцца, усё, што ён бачыў,— сон? Благі сон? А зламаны зуб і кроў? Гэта бабуля і ў сне асланяла мяне".

Зірнуў на сябра, на плачучую жанчыну й няпэўна прамовіў:

— Ейная праўда. Так мне й трэба...

Усю дарогу ў лякарню ўнук думаў, што бабулін урок варта заўсёды памятаць... Самі прыйшлі на памяць бабуліны словы: "Калі на душы цяжка, ты паспрабуй заплакаць. Ад слёзаў душы тваёй палягчэе..."

І заплакаў наўзрыдзь.

Пераклад
Рыгора БАРАДУЛІНА

ЛІМ-ЧАСАПІС

# НАДЗЕЯ МІКУЛІЧ: «ТОЛЬКІ ЎПЕРАД!» ЯЕ КЛІЧА НАДЗЕЯ

14 лютага, у дзень усіх закаханых, заслужаная артыстка Беларусі, бас-гітара і голас ВІА "Верасы" ў мінулым, спявачка і аўтар песень Надзея Мікуліч (адна з нямногіх зорак беларускай эстрады, якая не баіцца самай патрабавальнай публікі — дзяцей) завітала да вучняў мінскай тэхналагічнай гімназіі № 12. І пазнаёміла іх са сваёй канцэртнай праграмай І "Ах, каханне маё!"

Увогуле, усе яе песні пра каханне. Спявачка лічыць, што гэта тэма актуальная ва ўсе часы і цікавая як для моладзі, так і для старэйшага пакалення. Каханне — наша жыццё. Кахаць і быць каханым — вось сапраўднае шчасце, на думку Н. Мікуліч.



"Прыгожае — цяжка", — казаў Спіноза. А Н. Мікуліч мяркуе, што самае цяжкое ў творчым жыцці спявачкі і кампазітара — захапіць публіку, быць сапраўды пачутай. Між тым у яе гэта атрымлівалася выдатна, бо на сцэне беларуская зорка адчувала сябе гаспадыняй. Гімназісты слухалі з захапленнем!

"Даўно мяне кліча надзея", — спявала гэтая энергічная жанчына. На пытанне: "Куды ж?" — адказала: "Больш працаваць, займацца тым, што я люблю больш за ўсё, і крочыць толькі ўперад!"

Вікторыя БАРТКЕВІЧ

*Фота аўтара*

# ТРЫ ЗОРКІ

Быў халодны зімовы вечар. На сэрцы было чамусьці тужліва. Вельмі хацелася пачуць цёплае слова. І прыснежаная сцежка прывяла мяне ў цудоўны, невялічкі будынак — "Беларускую хатку", філіял музея Максіма Багдановіча.

Мне пашчасціла правесці цэлы вечар у цёплай, сяброўскай атмасферы.Гэта была вечарына ўсяго адной карціны — "Максім Багдановіч і Зоська Верас у Мінску восенню 1916 года" Івана Пратасені. У гісторыі працы філіяла музея — гэта першая спроба такой імпрэзы.

Вечар пачаўся з успамінаў. Таццяна Шэляговіч (загадчыца "Беларускай хаткі") зрабіла экскурс у той час, сведкам якога быў сам Максім Багдановіч. Дзякуючы паведамленню Алы Ходан, прысвечанаму падзеям Першай сусветнай вайны на Беларусі, можна было даведацца пра тых, хто жыў і працаваў у той далёкі час.

У 1981 годзе Іван Пратасеня рыхтаваўся да Рэспубліканскай мастацкай выставы, прысвечанай 90-годдзю М. Багдановіча, і шукаў сюжэт, які раней не быў адлюстраваны ў жывапісе. Ідэю напісаць гэтую карціну мастаку падказаў Віталь Скалабан, гісторык, навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва РБ. Распачалася праца: збор звестак, гістарычных фактаў, архіўных матэрыялаў. Адбылася сустрэча з Зоськай Верас (Людвікай Антонаўнай Сівіцкай). Людвіка Антонаўна параіла мастаку адлюстраваць на карціне яе сустрэчу з Максімам Багдановічам у акупаваным Мінску.

"Хросны" бацька карціны, Віталь Скалабан, таксама прысутнічаў на вечарыне. Ён паведаў некаторыя факты, якія тычыліся працы мастака над творам. Па яго словах, Зоська Верас добра ўспрыняла карціну.

На імпрэзе выступілі таксама мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн, якая казала пра карціну як пра творчы здабытак, а таксама Міхась Шавыркін, галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова", на старонках якога вучні і настаўнікі неаднойчы знаёміліся з гэтым неардынарным жывапісным палатном.

А. АНТОНАВА

КІНО

***Ці ёсць будучыня ў беларускага кіно? Няма! Менавіта такі прысуд вынеслі айчыннаму кінематографу беларусы, гледачы ток-шоу "Выбар", што па панядзелках ідзе на канале АНТ. І гэта нягледзячы на важкія аргументы аптымістаў, якія вераць у будучыню беларускага кінематографа: дырэктара Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" В. Шанько ("Мы павінны рабіць сваё кіно: прызямленае, лірычнае, тое кіно, якое мы разумеем"), начальніка Дзяржрэгістра кінавідэафільмаў і тэлевідэапраграм Ю. Цвяткова ("Пакуль ёсць беларуская літаратура, будзе беларускае кіно"), рэжысёра, аператара Ю. Ялхова, пастаноўшчыка новага беларускага фільма "Легенда пра Анастасію Слуцкую", які ў будучым мусіць злавіць птушку ўдачы і на Берлінскім, і на Канскім кінафестывалях, а таксама дырэктара кінафэстаў "Залаты Віцязь", "Лістапад", Нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў В. Сцяпанавай, якая прыгадала аб актыўнай падтрымцы нацыянальнага кінематографа Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.***

# СТАРЫЯ РАЗВАГІ ПРА ГАЛОЎНАЕ



Увогуле цяжка не пагадзіцца з кінарэжысёрам В. Нікіфаравым, які прадстаўляў у ток-шоу бок песімістаў, што беларускае кіно знаходзіцца ў "перманентным крызісе ўжо дзесяць гадоў", што "мы робім падзелкі, а не фільмы".

Прынамсі, пра гэта сведчыць статыстыка, агучаная ў праграме. На жаль, беларускія карціны не карыстаюцца вялікім попытам у нашых гледачоў: напрыклад, фільмы М. Касымавай "Маленькі баец" і "Зорка Венера" паглядзелі толькі 75,10 тысяч чалавек, а меладраму з элементамі камедыі "Павадыр" А. Яфрэмава — усяго толькі 13 тысяч чалавек. Летась самымі касавымі стужкамі былі "Уладар кольцаў", "Людзі ў чорным-2", "Зорныя войны.



Эпізод II: атака клонаў" (Галівуду мы пакуль не сапернікі). Драматург А. Дудараў, які таксама не верыць у будучыню айчыннага кіно (нават нягледзячы на тое, што на "Беларусьфільме" рыхтуюцца да запуску ягоныя "Радавыя"), слушна падкрэсліў, што мы будзем цікавыя астатнім толькі тады, калі будзем паказваць у фільмах — тое, што робіцца на гэтай зямлі... (Дарэчы, цікава, што напрыканцы ток-шоу песімістаў падтрымалі запрошаныя ў праграму кінакрытыкі і журналісты).

Над тэмай ток-шоу "Ці ёсць будучыня ў беларускага кіно?" разважаюць у нас даўно. Час ад часу ўзнікаюць усемагчымыя "круглыя сталы", друкуюцца праблемныя артыкулы. Адказ на гэтае пытанне шукаюць і мэтры, і маладыя кінематаграфісты. Прынамсі, гэта тэма стала галоўнай на нядаўнім з'ездзе беларускіх кінематаграфістаў (ладзіўся напрыканцы снежня 2002 года). Тады ў зале Тэатра-студыі кінаакцёра прагучала шмат меркаванняў, якія сыходзіліся на адным, "што кіно ў гэтай краіне нікому не патрэбна" (А. Карпаў), што трэба больш сур'ёзна ставіцца да выбару сцэнарыяў, рэжысёраў, у рэшце рэшт грошай, якія як ні ў якой другой дзяржаве СНД выдаткоўваюцца на кіно (па словах намесніка міністра культуры РБ У. Рылаткі, летась у дзяржфінансаванні кіно займала 11%). Таму не магу не прыгадаць словы таленавітага беларускага рэжысёра А. Кудзіненкі, які ў праграме "Тэлевізійны дом кіно", прысвечанай з'езду БСК, сказаў, што "сучаснае



БРАВА!

***Два вечары запар сталічная публіка была ў палоне новых уражанняў. Ганна ды Яцак Янішэўскія, візіту якіх паспрыяў Польскі інстытут у Мінску, захапілі-паланілі свежай прыгажосцю галасоў, майстэрствам. Дый проста — сваёй абаяльнай маладосцю. Вядучая іх канцэртнай праграмы ў зале Беларускай акадэміі музыкі адзначыла і гэта, падкрэсліўшы ва унісон пачуццям публікі: "Нават калі б госці нашы і не спявалі, а размаўлялі ці толькі выйшлі б на сцэну, мы любаваліся б іх прыгажосцю".***

# ГОСЦІ З КРАІНЫ ПАЛОНІІ



Але ж як спявалі! Чаргуючыся, мецца-сапрана ды бас узрушвалі прастору залы сваім нязмушаным палётам. І, як ні дзіўна, гэтая лёгкасць, палётнасць гучання нагадвала тэхнічна дасканалае бельканта высокіх галасоў. Выкананне (з удзелам беларускага канцэртмайстра Алы Трафімавай)уражвала стыльнасцю ды густам, пераконваючы зноў — якое ж гэта шматаблічнае стварэнне: музычны рамантызм! Азмрочаная ноткамі драматычнага фаталізму лірычнасць "Кахання паэта" Р. Шумана (фрагменты вакальнага цыкла на вершы Г. Гейнэ). Прадвесце інтанацыйна-гарманічнай мовы новага стагоддзя — трапяткая глыбіня "Пяці вершаў Матыльды Везендонк" Р. Вагнера. Песні ды рамансы М. Карловіча, С. Манюшкі, І. Я. Падэрэўскага, рэдкасныя для канцэртнай эстрады вакальныя творы "паэта фартэпіяна" — Ф. Шапэна.

У артыстызме пані Ганны спалучаліся разумнае какецтва ды безабаронная далікатнасць. Ад вакальна-сцэнічных мініяцюр пана Яцака, прасякнутых мужным духам, пазначаных штрыхамі народнай дасціпнасці, музычная моладзь (а ў зале пераважала яна) проста "заводзілася"!

Абое спевакі вучыліся і працуюць амаль поруч. Ганна Мілеўска-Янішэўска, выпускніца Акадэміі музыкі імя Ф. Шапэна ў Варшаве (клас Р. Венгжына), як стыпендыятка Міністэрства культуры Польшчы прайшла паслядыпломнае навучанне ў Балгарыі, шматкроць удзельнічала ў майстаркласах пад кіраўніцтвам выдатных спевакоў. Вылучалася на конкурсах, выступала на многіх еўрапейскіх музычных фестывалях, у оперных тэатрах Германіі. 33-гадовы Яцак Янішэўскі пачынаў свой шлях у прафесійнае мастацтва як валтарніст (аддзяленне духавых інструментаў Акадэміі музыкі імя Ф. Шапэна). Потым былі заняткі вакалам у таго ж прафесара Р. Венгжына, паслядыпломная стажыроўка ў Балгарыі, поспехі на вакальных конкурсах (у тым ліку ў Вене, Токіо, Гютэрспо), удзел у міжнародных фестывалях, прэстыжныя сольныя канцэрты і запісы на радыё. Стыпендыят Мюнхенскай дзяржаўнай оперы, ён супрацоўнічае з тэатрам германскага горада Фленсбурга, выступае і як саліст Вялікага тэатра Варшавы.

Удалося пану Яцаку і сэрцы мінскай操 опернай публікі паланіць: выступіўшы ў адной з самых эфектных партый басовага рэпертуару, ён стварыў каларытны і ўражлівы вобраз хана Канчака. (Спектакль "Князь Ігар" адбыўся ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы Беларусі напярэдадні згаданага канцэрта нашых гасцей). Кульмінацыяй таго вечара была дзея ў палавецкім стане. У цэнтры ўвагі — Канчак. Паблажлівы да свайго паланёнага ворага. Нават вялікадушны. Нават гасцінны. Валадар з пачуццём уласнай годнасці, варты і сваёй улады, і раскошы, што яго атуляе. Волат з магутным голасам, які гэтак нагадвае віяланчэльную кантылену.

Шчодра і шчыра, без хрэстаматыйнага "ўсходняга каварства", гучаў яго зварот да рускага князя (Аркадзь Саўчанка) — знясіленага і відавочна збянтэжанага перад гэткай магутнай чалавечай прыродай. "Мірная прапанова" — адчуваць сябе не палонным, а госцем, сябрам, супольнікам — успрымалася як арганічны прыгожы жэст упэўненага ў сабе гаспадара...

Мастацтва — магутная рэч: магічная! Паспрабуй устрымацца і не трапіць у спакуслівы палон гармоніі музычных сугуччаў, артыстызму харызматычнай творчай натуры. Можа, ствараючы такі палон, прыгажосць і ўратуе свет?

С. БЕРАСЦЕНЬ

Фота К. ДРОБАВА

беларускае кіно, па-першае, не сучаснае, па-другое, не беларускае, а, па-трэцяе, не кіно ўвогуле". (Камусьці, хто чытае гэты артыкул, можа падацца, што аўтар перабольшвае, так бы мовіць, згушчае фарбы, але раю паглядзець апошнія беларускія карціны — "Павадыр", "Паміж жыццём і смерцю" — паралельна хоць з адным з кінапаказаў "Кінафармат 4х4", які раз на месяц ладзіць наш Кінавідэапракат, каб пераканацца наколькі, на жаль, мы саступаем сусветным кінатворам па мастацкім, ідэйным узроўні. Урэшце, трэба навучыцца глядзець праўдзе ў вочы. Бо мае рацыю рэжысёр А. Карпаў, які лічыць, што ў нас існуе злосная, кругавая парука: тыя, хто даюць грошы на кіно, не могуць потым прызнацца, што фільмы дрэнныя — значыць, мы кепска працуем?! — таму ўсё, зробленае на "Беларусьфільме", толькі ўсхваляецца.)

У юбілейны для Беларускага саюза кінематаграфістаў год (БСК — 40!) гэтая творчая грамадская арганізацыя набыла новага старшыню — рэжысёра І. Волчака. (На з'ездзе БСК за яго кандыдатуру прагаласавала крышачку больш, чым за кандыдатуру рэжысёра А. Яфрэмава, які дагэтуль выконваў абавязкі старшыні БСК.) Сёння І. Волчак, як і многія нашыя кінематаграфісты, занепакоены станам беларускага кіно. Менавіта новаму старшыні БСК належыць ідэя сходу маладых кінематаграфістаў і ўпраўлення БСК (ладзіўся напрыканцы студзеня 2003 года), на якім хаця і прагучалі старыя развагі пра галоўнае — ці ёсць будучыня ў беларускага кіно? — але шукаліся) і Мінкультам РБ, і Беларускім саюзам моладзі, і студыяй "Беларусьфільм", і БелАма), рэальныя сродкі дапамогі маладым кінематаграфістам зрабіцца сапраўднымі майстрамі. І. Волчак упэўнены: адбудуцца маладыя кінематаграфісты, як майстры — будзе беларускае кіно. А для гэтага ім трэба толькі адно — здымаць кіно. Сёння ж калі "сітуацыя з нашым кінематографам выйшла з-пад кантролю, калі генеральны прадзюсер — Мінкульт і выканаўчы прадзюсер — "Беларусьфільм" не зацікаўленыя ў якасці канчатковага прадукта, а іншых прадзюсераў і ўвогуле інстытута прадзюсерства ў нас няма" (І. Волчак), уражвае не толькі нізкі ўзровень кіно, а колькасць беспрацоўных рэжысёраў. Цэлыя пакаленні чакаюць сваёй чаргі. І таму БСК спяшаецца дапамагчы пачаткоўцам ад кіно, чым можа: апаратурай, грашыма на канкрэтныя, цікавыя кароткаметражныя праекты. (На жаль, многія за гэты час з "маладых" кінематаграфістаў паспелі ператварыцца ў "сталых" (нават па ўзросце, бо некаторым з выпускнікоў курсаў В. Турава, А. Яфрэмава, В. Дашука ўжо за сорак гадоў) і ўсё яшчэ не зрабіўшых свой першы поўны метр (а гэта і А. Кудзіненка, і А. Колбышаў, і Р. Грыцкова). "Мы не патрэбны гэтай краіне — гэта вельмі балюча!" — усхвалявана казала на сходзе рэжысёр пакуль адной поўнаметражнай карціны А. Трафіменка. На думку кінематаграфісткі, галоўная праблема сёння — адкуль узяць грошы. Кіно без грошай не здымеш, але знайсці спонсара маладому кінематаграфісту немагчыма. Тады чаму дзяржаве, якая можа так рызыкаваць грашыма, не ўкладаць іх у маладых?

...Разам з кінакрытыкам А. Бабковай, я таксама веру ў патэнцыял маладых кінематаграфістаў. Дзякуй Богу, што сёння разам з рэжысёрам М. Касымавай здымае свой першы поўны метр таленавіты рэжысёр І. Волах (дзіцячы фільм "Сукенка для балю" па сцэнарыю Ф. Конева), што ў планах "Белвідэацэнтра" — новыя работы А. Кудзіненкі, Р. Грыцковай, В. Аслюка (фільмамі гэтага рэжысёра, які заўсёды здымае ціха і незаўважна, не выстаўляючы сябе, немагчыма не ганарыцца: летась дакументальныя работы В. Аслюка былі адзначаны прызамі на фестывалях у Санкт-Пецярбургу, Берліне, Карлавых Варах). Хацелася б, каб дзяржава дапамагла і былому курсу М. Пташука, які сёння "даглядае" рэжысёр В. Нікіфараў: несумненна, таленавітым студэнтам, якім не хапае грошай на курсавыя работы...

...Старыя развагі пра галоўнае працягваюцца.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКАХ: розныя пакаленні рэжысёраў (А. КАРПАЎ, І. ВОЛЧАК, А. ТРАФІМЕНКА) — у роздуме пра беларускае кіно.*

*ФОТА В. СТРАЛКОЎСКАГА, А. ПРУПАСА*

**УРАЖАННЕ**

# У «ЛЮСТЭРКУ ЧАСУ» — ЕЛІЗАР'ЕЎ

***Фільмы-балеты, фільмы пра балет — гэта даволі рэдкая з'ява ў сучасным мастацтве нашай краіны. Магчыма, таму, што справа вельмі дарагая і непрыбытковая з фінансавага пункту гледжання. І ўсё ж ёсць і тут прыемныя выключэнні.***




На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў кінарэжысёр Беларускага відэацэнтра Віктар Шавялевіч збірае па кроплях відэагісторыю Беларускага балета, зберагае рэдкія кадры хронікі і спектаклі мінулых гадоў. Многае з назбіранага за апошнія гады, а таксама новыя матэрыялы ўвайшлі ў фільм, нядаўна зроблены рэжысёрам па заказе расійскага тэлеканала "Культура" і прысвечаны 30-годдзю творчай дзейнасці лідэра беларускага балета Валянціна Елізар'ева.

Мастацкі кіраўнік, дырэктар, харэограф — за гэтымі словамі вопыт і няўрымслівасць, рашучасць і творчая бескампраміснасць, гатоўнасць рызыкаваць і ставіць усё на карту. Трыццаць гадоў таму Валянцін Елізар'еў уварваўся ў тэатр, нібы ўраган, ён рашуча зрабіў стаўку на моладзь, захапіў яе новымі формамі і вобразамі, і не памыліўся. У фільме "Валянцін Елізар'еў. Люстэрка часу" пра Елізар'ева гавораць тыя, з кім ён працаваў на працягу гэтых дзесяцігоддзяў. Толькі адно пералічэнне імёнаў уражвае: Мая Плісецкая, Радзіён Шчадрын, Юрый Грыгаровіч, Андрэй Пятроў, Ніна Ананіяшвілі, Андрыс Ліепа, Ірына Калпакова, Людміла Бржазоўская, Юрый Траян...

"Калі ў тэатр прыйшоў Елізар'еў, мы былі ўжо "славутасцямі", нам было ўсяго па 23 гады і здавалася, што мы ўсё можам. На самай справе мы маглі яшчэ нямногае і хутка зразумелі гэта, — прызнаецца з экрана Юрый Траян. — Тое, што ён нам прапанаваў, было для ўсіх адкрыццём. На рэпетыцыях мы з захапленнем сачылі за палётам яго фантазіі, якая нараджала новыя, незвычайныя па пластыцы вобразы".

"Я лічу сябе артыстам Елізар'ева", — упэўнена гаворыць славуты Андрыс Ліепа. Для яго і непараўнанай Ніны Ананіяшвілі ў 1986 годзе Елізар'еў паставіў харэаграфічную мініяцюру на музыку Р. Шчадрына "Настрой", з гэтым нумарам артысты выступалі на Міжнародным конкурсе артыстаў балета ў амерыканскім Джэксане. "Нам быў патрэбны такі сучасны нумар, які здзівіў бы ўвесь свет, і мы яго атрымалі", — прызнаецца Н. Ананіяшвілі, якая разам са сваім партнёрам атрымала на тым конкурсе Гран-пры. Славутая балерына таксама расказала, што ў свой час Елізар'ева запрашалі ўзначаліць калектыў Англійскага нацыянальнага балета, а ён адмовіўся, сказаў, што не можа пакінуць беларускі тэатр. Фільм прыўзняў заслону і над тым, якія скандалы ў саюзным Міністэрстве культуры выклікалі поспехі беларускіх артыстаў на гастролях за мяжой. Яны ж стваралі канкурэнцыю балету Вялікага тэатра СССР!

На працягу 66-ці хвілін (столькі доўжыцца фільм) перад намі праходзіць чарада вобразаў, выканаўцаў, спектакляў... Колькі іх было за трыццаць гадоў! І колькі яшчэ наперадзе? І што сёння, зараз бачыць у люстэрку часу харэограф? На жаль, фільм не дае адказу на гэта пытанне. Магчыма, на яго адкажа сам Елізар'еў — новым спектаклем "Клеапатра", над якім ён працуе сёння.

**Таццяна АЛЯКСАНДРАВА**

**ФОТА В. СТРАЛКОЎСКАГА і А. ДЗМІТРЫЕВА.**



**ВЫДАННІ**

# ВЯРТАЕ МУЗЫКУ...

***Выхад у свет кожнай кнігі Вольгі Дадзіёмавай — падзея заўсёды прыкметная ў музыказнаўчым свеце. Ды і не толькі ў ім, бо музычна-гістарычныя матэрыялы, назапашаныя даследчыцай, і канцэпцыі, распрацаваныя ёю, на доўгія гады вызначаюць кірункі развіцця той надзвычай важнай мастацкай галіны, якую прынята называць адраджэнскай і якая так вабіць сёння выканаўцаў і слухачоў, выкладчыкаў, студэнтаў і вучняў. Новая манаграфія — «Музычная культура Беларусі XVIII стагоддзя: гісторыка-тэарэтычнае даследаванне" рэпрэзентуе і развівае найперш сферу акадэмічнай музыкалогіі, але не абмяжоўваецца ёю.***

Выдадзеная ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ў лістападзе 2002 г., праца была прадстаўлена падчас святкавання 70-годдзя акадэміі. І ў гэтым ёсць глыбінная заканамернасць: годным вынікам навуковай дзейнасці вядучай музычнай установы краіны сталася грунтоўнае даследаванне, што падсумоўвае і абагульняе плён працяглых штудый у галіне гісторыі айчыннай музычнай культуры.

Калі ў папярэдніх, ужо добра вядомых кнігах даследчыцы, на якіх выхоўваюцца сёння музыканты), даказваўся раней непрымальны факт існавання і разгортвання на Беларусі ў XVIII ст. інтэнсіўнага і багатага ў сваіх праявах музычна-гістарычнага працэсу, раскрываўся надзвычай рознапланавы яго змест, дык у новым, сістэмнатыпалагічным даследаванні вырашаюцца якасна больш складаныя праблемы. Тут не толькі адбудоўваецца шмат'ярусны і шматаблічны мастацкі, сацыякультурны ландшафт пэўнай музычна-гістарычнай фармацыі, але і выяўляюцца асноватворныя заканамернасці яе станаўлення і функцыянавання, яе ўласцівасці, дачыненні з іншымі музычна-культурнымі ўтварэннямі.

Зразумела, што здзяйсненне такога маштабнага даследавання — вынік велізарнай пошукава-крыніцазнаўчай працы, праведзенай В.Дадзіёмавай (дарэчы, пераважна за ўласны кошт) у архівах і бібліятэках розных краін: ад Беларусі, Расіі, Польшчы і Літвы да Германіі і Бельгіі. Выяўленыя ў працэсе гэтай працы матэрыялы (як не вядомыя раней, так і прыгаданыя ў замежных крыніцах, але не прадстаўленыя ў іх) маюць такую значнасць і самакаштоўнасць, што нават іх агляд і сістэматызацыя дазволілі б кнізе прэтэндаваць на статус фундаментальнай працы. Яна насычана каштоўнымі, цудам адшуканымі, звесткамі пра музычнае жыццё сацыяльна (саслоўна, канфесійна, дэмаграфічна, прафесійна) розных груп насельніцтва тагачаснай Беларусі, пра іх музычныя густы і прыхільнасці, пра тыя няўлоўныя духоўныя эманацыі, якія адкрываюць патаемны свет музычнай ментальнасці далёкай эпохі. А яшчэ — пра многія староні жыцця і творчасці кампазітараў-(прафесіяналаў і аматараў) Беларусі; пра свецкія і рэлігійныя, аўтарскія і ананімныя, рукапісныя і друкаваныя музычныя помнікі; пра выканальніцтва, музычную адукацыю і выхаванне і г.д.

Аўтарка, адпаведна логіцы матэрыялу і ў працяг сваіх ранейшых навуковых захадаў, прапануе арыгінальную метадалогію, што яднае музычна-сацыялагічныя, культуралагічныя і іншыя метады, захоўваючы ў непарушнасці музычна-гістарычныя стрыжань даследавання, раскрываючы спрадвечную сутнасць вернутага з нябыту як выразна дыферэнцыраванай, але цэласнай субстанцыі, што ў адносінах да агульнаеўрапейскай культуры мае і універсальныя, і адметныя, і унікальныя якасці.

Такі падыход, жыватворны для музыкалогіі і адпаведны найноўшым тэндэнцыям яе развіцця як комплекснай, па сутнасці, міждысцыплінарнай галіны ведаў, дазваляе значна пашырыць кола патэнцыяльных чытачоў кнігі. Зрэшты, іх колькасць абмежаваная за-за невялікага накладу (100 асобнікаў). Маем аднак спадзеў, што ў бліжэйшы час гэтая каштоўная праца будзе дадрукавана.

**Вольга САВІЦКАЯ**

ЛІМ-ЧАСАПІС

## КАЗКІ НОВЫЯ Ў СВЕТ...

**Радок з Купалавага верша даў назву новай выстаўцы ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Мастачка Людміла Пятруль прадстаўляе свае новыя творы: габелены і графічныя работы па матывах творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. Майстэрства, тонкі лірызм, рознапланавасць — гэта адметныя рысы яе творчасці. Яна глыбока нацыянальны мастак, што вельмі бачна ў серыі міні-габеленаў па вершах Янкі Купалы: "Заклятая кветка", "Лясная царэўна", "Ваўкалак", "Песня вясны", "Уладар-Мароз". Таямнічае, фантастычнае, казачнае ўбачыла Л. Пятруль у вершах народнага песняра і стварыла своеасаблівыя кампазіцыі ў аўтарскай тэхніцы. У габеленах бачны не толькі эксперыменты мастачкі ў форме і разнастайнай тэхніцы, але і філасофскае асэнсаванне часу і асобы. Гэтаму дапамагае і тое, што Л. Пятруль паэт з адметным поглядам на Сусвет. Своеасаблівы погляд, вобразнае ўспрыманне ў графічных лістах да апавяданняў Якуба Коласа "Казкі жыцця", у габеленах па матывах творчасці Максіма Багдановіча. Выстаўка "Казкі новыя ў свет..." мастачкі Л. Пятруль уводзіць нас у творчасць беларускіх песняроў сродкамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Цельныя ткацтва, багацце фарбаў, разнастайнасць тэмаў прыцягвае ўвагу вучняў, студэнтаў, настаўнікаў, прыхільнікаў таленту мастачкі.**

**Фаіна ВАДАНОСАВА**

## "МОЙ РОДНЫ КУТ..." ВАСІЛЯ МАЙСЮКА

**Некалькі дзесяцігоддзяў разам з іншымі майстрамі фота ў "ЛіМе" друкуецца пейзажыст з Баранавічаў Васіль Майсюк. У яго і раней былі персанальныя выстаўкі. А сёлетняя "Мой родны кут" праходзіць у сценах Баранавіцкага краязнаўчага музея. Супрацоўнікі му-**



**зея на адзінаццаці стэндах размясцілі 50 здымкаў Васіля Майсюка, якія расказваюць аб свеце яго захапленняў. Тут і гарадскія матывы, "стары" і "малады" паркі, рака Мышанка, вёска Міцкевічы, карагоды бяроз... Кожны раздзел выстаўкі аздоблены паэзіяй мясцовых аўтараў В. Бутрыма, А. Бокача, М. Ланцмана, Я. Чачота, Д. Тукая ды яшчэ Ніла Гілевіча.**

**А пачынаецца экспазіцыя з жыццяпіса і творчага шляху В. Майсюка (нарадзіўся 25 лютага 1937 года ў вёсцы Калеснікі, вучоба ў Навагрудку, праца ў Моўчадзі, камсамольскія новабудоўлі на Растоўшчыне і Пскоўшчыне, з 1968 года і да пенсіі — Баранавіцкі аўтапарк № 2). Акрамя "ЛіМа", В. Майсюк друкаваўся ў "Культуры", "Голасе Радзімы", "Нашым слове", часопісе "Родная прырода" і іншых выданнях. А першы свой здымак В. Майсюк змясціў у мясцовай газеце "Наш край". У дзень адкрыцця выставы гэтая газета на сваёй першай старонцы дала найлепшы пейзажны здымак В. Майсюка. Віншуем Васіля Сямёнавіча з юбілеем, жадаем яму і надалей творчага неспакою і плёну.**

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**

СУСТРЭЧЫ

# "БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ" І "ПОЛЫМЯ": КЛОПАТ АДЗІНЫ

Днямі супрацоўнікі выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі" сустрэліся з галоўным рэдактарам старэйшага беларускага часопіса "Полымя", паэтам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі Міколам Мятліцкім.

Падобныя сустрэчы кнігавыдаўцоў *сталі традыцыйнымі*, і яны ладзяцца не толькі з калегамі, альбо вучонымі і пісьменнікамі, але і з дзяржаўнымі дзеячамі і асобамі, з тымі, каго лёс і будучыня нашага айчыннага кнігавыдання *хвалюе і непакоіць. Можна сказаць*, не гасцямі, а зацікаўленымі саўдзельнікамі ўжо былі старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь А. Вайтовіч, першы намеснік *міністра інфармацыі нашай краіны* С. Нічыпаровіч, дырэктар Інстытута літаратуры НАН Беларусі У. Гніламёдаў, в.а. дырэктара Інстытута гісторыі НАН Беларусі М. Сташкевіч (дарэчы, апошні — *пастаянны аўтар* і кансультант гістарычнай тэматыкі "Беларускай энцыклапедыі").



І ў кнігавыдаўцоў, і ў калектыву часопіса "Полымя" сёння клопат, бадай, адзіны — як своечасова выдаваць свае дзецішчы-тварэнні, рабіць іх на належным узроўні па духоўнасці, змястоўнасці, мастацкасці, інфармацыйнай насычанасці, у гожым і вабным мастацкім *афармленні*. І, вядома, больш таннымі, бо ў большасці нашых сучаснікаў сродкаў ледзьве хапае на самыя жыццёва неабходныя патрэбы — пракарміцца, апрануцца, аплаціць жыллё... На жаль, *кніга і часопіс адыходзяць на "астачу"* сродкаў.

З чым жа пазнаёміцца чытач у бягучым годзе, якія кніжныя энцыклапедычныя навінкі прыйдуць да яго? Найперш гэта чарговыя тамы нацыянальнай універсальнай энцыклапедыі, галіновыя энцыклапедыі, даведнікі, слоўнікі, дапаможнікі, кнігі серыі "Памяць", Сярод іх 3-х томны "Беларуска-рускі слоўнік", энцыклапедыя па сацыялогіі, другі том "Тэатральнай Беларусі", энцыклапедычны даведнік "Культуралогія" і інш. Рыхтуюцца і самаакупныя шматтомныя серыйныя выданні: "Энцыклапедычная бібліятэка самаадукацыі", "Гісторыя Беларусі ў манаграфіях, дакументах, літаратурных помніках"...

На шчасце (а правільней усё ж будзе сказаць — дзякуючы дзяржаўным уладам і самім энцыклапедыстам) перабудовачная віхура не прайшлася разбуральна па выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя". Хаця *шмат і даявілася скарачаць*, і пастаянна ёсць фінансавыя цяжкасці — два чарговыя тамы "Беларускай энцыклапедыі" штогод усё ж выходзяць рэгулярна: у чэрвені і ў снежні, як *гэта зацверджана дзяржаўным* графікам. Нават у такой крытычнай сітуацыі, як, напрыклад, з выхадам чарговага 15 тома. Але ён выйшаў своечасова — акурат пад Новы 2003 год.

*Галоўны рэдактар* выдавецтва Генадзь Пашкоў, яго намеснікі, загадчыкі рэдакцый А. Болсун, Л. Календа, Л. Языковіч падзяліліся клопатамі бліжэйшага часу. А іх — нямала. Толькі што *галоўная рэдакцыя абмяркавала гранкі* чарговага 16 тома "Беларускай энцыклапедыі" і апошняга, 6 тома другой кнігі "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Ушчыльную калектыў прыступіў да працы над 17 томам. У наступным годзе застанецца апошні, даведачны і дапаўняльны 18 том, які будзе ў дзвюх кнігах. Што далей — пакажа час. Верыцца: калі дзяржава зберагла сваё адзінае энцыклапедычнае выдавецтва ў самыя цяжкія часы перабудовы, яна знойдзе мудрасць і сродкі і на фінансаванне не *менш патрэбных нашаму народу* наступных выданняў — энцыклапедый, даведнікаў, слоўнікаў. Ці будзе дапамагаць нечым іншым, каб выдавецтва жыло і працавала.

*Галоўны рэдактар* "Полымя" *Мікола* Мятліцкі на развітанне абяцаў на старонках часопіса адводзіць належнае месца знаёмству сваіх чытачоў з энцыклапедычнымі выданнямі.

— Духоўныя ідэалы і жыццёвыя арыенціры ў нас адзіныя — усе мы дзеці нашай зямлі, нашай радзімы. І будзьма працаваць една і самаададзена, калі трэба, нават самаахвярна. Праўда, мы, *беларусы, інакш і не можам... — гэткай думкай і завяршылася сустрэча.*

**Віктар РАБКОЎ**

*НА ЗДЫМКУ: У час сустрэчы ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя"*

**ФОТА В. ХАРЧАНКІ**

# ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ НАШЫХ СЭРЦАЎ

На Мінскім заводзе халадзільнікаў адбылася неардынарная, нават для *усяго яго шматтысячнага калектыву*, культурная падзея — выданне калектыўнага зборніка паэзіі працаўнікоў ЗАТ "Атлант", "Прыналежнасць—Сопричастность". Як вядома, на буйнейшым беларускім прадпрыемстве плённа працуюць літаратурныя аб'яднанні "Жнівень" (Баранавіцкі станкабудаўнічы завод) і "Пегас" (Мінскі завод халадзільнікаў), праводзяцца літаратурныя сустрэчы, сумесныя пасяджэнні паэтычных клубаў... І вось, дзякуючы намаганням і фінансавай падтрымцы прафкама МЗХ ЗАТ "Атлант", першы паэтычны зборнік пабачыў свет у выдавецтве "Медысонт". Гэта падзея выклікала рэзананс і цікавасць сярод як працаўнікоў "Атланта", так і аматараў паэзіі з розных куткоў краіны, сродкаў масавай інфармацыі...



Прэзентацыя паэтычнага зборніка "Прыналежнасць—Сопричастность" пачалася хвілінай маўчання. Атлантаўскія паэты, удзельнікі прэзентацыі і госці ўшанавалі памяць трагічна загінуўшага першага старшыні літаратурнага аб'яднання "Жнівень", сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Анатоля Станкевіча.

Свае новыя творы на беларускай і рускай мовах чыталі атлантаўскія паэты Т. Пракапенка, Т. Каровіна, А. Дрозд, Р. Сакалоў, С. Гарбушка, І. Абрамовіч, Е. Богуш, У. Анішчонак, М. Хмялеўскі, А. Пажыдаеў, Д. Гваздовіч, М. Сюрын, а таксама сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў, якія працуюць на "Атланце", — паэты Анатоль Кудласевіч і Янусь Малец...

Як *падкрэсліў* ініцыятар выдання зборніка паэтаў ЗАТ "Атлант" — старшыня прафкама Мінскага завода халадзільнікаў Валерый Аляксандравіч Нікаленка: "Гэта не першы ў гэтым годзе *паэтычны вечар у нас на прадпрыемстве*. Але гэта першая сумесная сустрэча амаль усіх прыхільнікаў паэзіі Мінскага завода халадзільнікаў, Баранавіцкага станкабудаўнічага завода і *прадстаўнікоў газеты "Літаратура і мастацтва"*. Спадзяюся, такія сустрэчы на нашым заводзе будуць яшчэ і мы абмяркуем сумесныя праекты, нашыя творчыя планы..."

На заканчэнне прэзентацыі свае вершы з новых зборнікаў прачыталі госці — паэты Віктар Шніп і Людміла Рублеўская.

Для прадстаўнікоў літаб'яднанняў ЗАТ "Атлант" з Мінска і Баранавічаў прэзентацыя стала яшчэ адным урокам майстэрства, над шліфоўкай якога атлантаўскія аўтары працуюць па заклику сваёй душы і сэрца.

**А. МІТРАНОВІЧ**

*НА ЗДЫМКУ: Удзельнікі прэзентацыі на ЗАТ "Атлант" і госці з "ЛіМа"*

**ФОТА А. КАЛЫША**

# ДУМАЦЬ ВЕРШЫ...

### З ЛІТАРАТУРНА-СЕНТЫМЕНТАЛЬНАГА ПАДАРОЖЖА

## Чым Каін забіў Авеля?

Касцюковічы. 1974 год. Рэдакцыя раённай газеты "Сцяг камунізму".

— А ці ведаеш ты, Саша, як звалі Чычыкава? — хітра жмурачы вясёлае вока, дапытваецца ў мяне, дзесяцікласніка-вершаплёта, галоўны рэдактар Пётр Міхайлавіч Пабока.

— Павел Іванавіч, — з лёгкай душой адказваю я.

Гогаля я люблю.

— Запомні, — пераходзіць на сур'ёзны тон усмешлівы рэдактар, паэт павінен ведаць усё, каб быць з векам нароўні. Не ўсміхайся, — усё! Інакш будзеш выдумляць веласіпед і ў каторы раз спальваць Галілея. Бедны Галілей! Хто з паэтаў не паліў яго на кастрах інквізіцыі!

Пабоку я тады, канечне ж, не верыў: "Так ужо і ўсё!" Ды і як было паверыць, калі другая палова майго сшытка па алгебры была спрэс спісана вершамі ў гонар адной красуні з паралельнага класа. Настаўнік матэматыкі наш наймілейшы і найдабрэйшы Пётр Яфімавіч адчайна пісаў у тым сшытку чырвоным па беламу: "Рашай хоць у класе!".

...Урок першага рэдактара мне востра згадваўся ў "Полымі", дзе я на працягу васьмі гадоў працаваў загадчыкам аддзела навукі і мастацтва. Я ўспомніў яго, ідучы на інтэрв'ю са славутым матэматыкам акадэмікам Мікалаем Паўлавічам Яругіным. (Ён, між іншым, рабіў разам з Сахаравым вадародную бомбу – рашаў задачу па балістыцы.) О, Божа, як гаварыць з такім знакамітым чалавекам! Я ж нічагусенькі ў матэматыцы не петру!

Давялося грунтоўна засесці за энцыклапедыю і нават пагартаць часопіс "Дыферэнцыйныя ўраўненні", які тады выходзіў у Мінску пад рэдакцыяй шаноўнага акадэміка. Штудзіруючы адпаведныя артыкулы, я з сорамам і дакорам да сябе, згадваў словы любімага саматэвіцкага настаўніка Аркадзя Куляшова Сцяпана Андрэевіча Брыльянтава: "О, вы проста не ведаеце, у Аркадзя былі выключныя здольнасці! Мне вельмі хацелася, каб ён стаў матэматыкам, а ён стаў паэтам!" — не то бедаваў, не то радаваўся стары інтэлігент.

Інтэрв'ю з Яругіным я ўсё-такі зрабіў. І самае парадаксальнае ў тым, што называлася яно "Матэматыка — гэта цікава". О, уяўляю, як бы здзекліва пасмяяўся з мяне наймілейшы і найдабрэйшы Пётр Яфімавіч!

А зусім нядаўна ў бліскучай рэцэнзіі аднаго свайго сабрата на новы зборнік харошай паэткі, я са здзіўленнем зачапіўся за вершаваныя радкі, якія ўхвальна цытуе захоплены рэцэнзент:

*Мне чуўся шэпт асіны і бярозы,*
*Язміну водар абдымаў, п'яніў*
*Насіліся пялёсткі, як стракозы,*
*Над Іслачу,*
*дзе стогадовы дзіў*
*Фарэль і стронгу вудачкай лавіў...*

Фарэль і стронга? Дык гэта ж тое самае! Фарэль — гэта расійскае, а стронга — нашае, беларускае. Дробязь, канечне. Але адразу відаць, што рэцэнзент не рыбак. І не чытаў ні Аксакава, ні Сабанеева, ні Ягоўдзіка — аўтара беларускай "Стронгі". Водзіцца гэтая загадкавая асцярожная рыба і ў нашай крынічнай Іслачы.

А літаральна днямі я яшчэ раз пераканаўся, што паэт павінен быць з векам нароўні, і што "спорить с Пушкиным не надо". У вершы пра Каіна і Авеля я напісаў:

*Ох, і лёгкі ж у Каіна нож,*
*Ох, і цяжкі ж у Каіна грэх!*

Скажу па шчырасці, толькі народжаныя радкі спадабаліся, але назаўтра, астыўшы, я засумняваўся: чаму менавіта нож, а, скажам, не камень? У сваёй бібліятэцы я перарыў усю літаратуру на біблейскую тэму, "дастаў" сваіх хатніх і сяброў: "Чым Каін забіў Авеля?"

Не адказаў ніхто.

Выручыў, як заўсёды, празаік, драматург і энцыклапедыст Валодзя Бутрамееў выратавальным званком з Масквы.

— Слухай, чым Каін забіў Авеля? — выпаліў я, зняўшы трубку.

— А ў цябе што?

— Нож.

— Малайчына, — зайшоўся смехам маскоўскі сябра, — адкуль жа гэта ў сына Адама і Евы ўзяўся нож? Перапішы.

— Лёгка сказаць... Рыфма, рытм...

— Нічога, перапішаш! Акурат учора я глядзеў унікальныя ілюстрацыі да "Бібліі". Дык вось: Авеля Каін забіў на полі, калі той араў зямлю, аслінай сківіцай. Сківі-цай...

Верш я перапісаў. І, на жаль, не лепшым чынам.

## Пісьмянкоў Луг

"У час цяжкі, у момант паваротны свайго жыцця" я ўсё часцей вяртаюся ў шчаслівае маленства. Мае думкі і ўспаміны там, дзе нясуць свае светлыя воды мае любімыя Бесядзь, Зубар і Сураў, "дзе трымаюць зямлю на карэннях сваіх сасна і бяроза", там, дзе некалі разам са мною радаваліся і журыліся, смяяліся і плакалі Бялынкавічы, Белы Камень, Мізырычы, Канічы, Калодліва, Белая Дуброва... Божа мой, якія назвы! Што ні назоў, то яркі непаўторны вобраз! Колькі ў іх глыбокага сэнсу і высокай паэзіі! І ад кожнай назвы вее таямнічай старажытнай славяншчынай. Любая з іх можа смела стаць загалоўкам верша, паэмы, рамана. Зрэшты, я так і зрабіў, назваўшы сваю першую кніжку "Белы Камень". У мяне было два варыянты, і я доўга вагаўся: "Падкова ў расе" ці "Белы Камень"? Прыдуманы мной гордзіеў вузел адным рашучым і ўладным махам рассек адмірал ад паэзіі Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін: "Толькі "Белы Камень"! Філолаг, успомні Катула ў перакладзе Максіма Багдановіча "Белым каменем адзначым гэты дзень..."



Можа, я і пішу нешта сваё толькі таму, што ў мяне былі і ёсць Белы Камень і Мізырычы на Зубары, Бялынкавічы на Бесядзі, Канічы на Сураве... Нездарма ж сам Аркадзь Смоліч заўважыў у сваёй славутай "Геаграфіі Беларусі", што Касцюкоўшчына "ляжыць над Бесяддзю ў прыгожай мясцовасці". Можа, дзякуючы акурат гэтай прыгажосці тут і з'явіліся на свет пісьменнікі Якуб Брайцоў, Аркадзь Куляшоў, Іван Чыгрынаў, Аляксей Русецкі, Масей Сяднёў, Васіль Хомчанка, Пятро Прыходзька, Леанід Левановіч, Сямён Пацёмкін, Міхась Губернатараў, Мікола Мельнікаў, выдатны мастак Антон Бархаткоў...

Такая ўжо тут, як любіў казаць мой незабыўны настаўнік літаратуры Аляксандр Іосіфавіч Нікіценка, генетыка зямлі.

А хіба не быў паэтам той, хто даў густому лясному масіву за вірлівым Зубарам дзіўную назву Штаны! Кажуць, што з самалёта гэты грыбны і ягадны лес сапраўды нагадвае дзве шырокія калашыны. Гэтая назва спрадвечная і ўзнікла яна яшчэ задоўга да самалётаў. А колькі досціпу і гумару ў назове бяздоннай азярынкі, якую нейкі весялун трапна назваў Чортавай Срачкай! А яшчэ ж ёсць Рафееў Беражок, Саўкіна Лужа, Вербачка, Гамарня, Сіні Вір...

Гэтым спякотным летам, вудзячы рыбу каля Вербачкі, я сустрэў двух цыбатых хлапчукоў, выгарэлых на сонцы аж да саламянасці, якія горда неслі па вяслу ладных акунёў і плотак. На пытанне, дзе гэтак добра ловіцца, хлопчыкі дружна і зычліва параілі: "Ідзіце на Пісьмянкоў Луг!"

Пісьмянкоў Луг... Эх, як шкада, што гэта ніколі ўжо не пачуюць мае бацька і маці. Гэта яны, паліваючы потам зямлю, расчысцілі і зраўнялі зарослае непралазным хмызняком месца над Зубарам і ператварылі ў прыгожы раздольны луг.

Сёлета першае лета там не звінелі нашыя з братам косы.

## Празукаваты

Прыснілася слова. Напаўзабытае, чутае ў далёкім дзяцінстве: **празукаваты**. Спрасонку хацеў па звычцы патэлефанаваць маме, удакладніць сэнс, спытаць, ці правільна яго разумею і як яно гучыць у кантэксце, але балюча ўспомніў, што мамы ў мяне ўжо няма.

У пяцітомнік "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" нават не зазірнуў — марная справа. З надзеяй разгарнуў нашага беларускага Даля — слоўнік Івана Іванавіча Насовіча. Ёсць! Не можа не быць: слаўны лексікограф нарадзіўся на Быхаўшчыне, амаль усё жыццё пражыў у Мсціслаўе, дарэчы, там і пахаваны. І, вядома ж, складаючы свой "Словарь бълорусского наречья", апіраўся ў першую чаргу на лексіку, як мы сёння кажам, малой радзімы — усходняй Магілёўшчыны.

Дык што ж усё-такі азначае гэтае незвычайнае слова **празукаваты?** На старонцы 523 чытаю: "Празуковатый, прил. Разумный, смътлівый, сообразітельный. Празуковатый хлопець. Празуковатое дзіця, усё знаець, як старый".

Першым, каго сустрэў на лімаўскім калідоры, быў стыхійны лексікограф Алесь Гаўрон. Паводле Насовіча, абсалютна "празукаваты".

— Алесь, як ты разумееш выраз празукаваты хлопец?

— Чакай, чакай, — задумаўся на імгненне стыхійны лексікограф, і тут жа прасвятлеў тварам, — слухай, дык гэта ж сённяшні прасунуты ці, як кажуць расіяне, продвинутый. Дзе ўзяў?

— Дзе ўзяў, дзе ўзяў... У Насовіча.

— О, Насовіч! — паважліва прагудзеў Гаўрон.

Так, Насовіч. Нездарма ж Расійская Акадэмія Навук ацаніла слоўнік "як працу надзвычай важную" і ўганаравала палавінай Дзямідаўскай прэміі (714 рублёў). За царскім часам гэта былі вялікія грошы. Цары, як бачыце, цанілі інтэлект! Высока слоўнік Івана Іванавіча Насовіча цанілі і тагачасныя інтэлектуалы. Вось што пісаў Максім Горкі ў 1910 годзе ў рэдакцыю газеты "Наша Ніва": "Вельмі прашу вас: вышліце мне — калі гэта вам не будзе надта турботным — слоўнік Насовіча..."

Цытую класіка толькі дзеля таго, каб яшчэ раз сказаць некаторым нашым прасунутым, выбачайце, празукаватым ахвотнікам пазычацца ў заходніх і ўсходніх суседзяў, што і мы не бедныя сваячкі.

## Наймарнейшая марнасць

Неяк напярэдадні Новага года, чысцячы па даўніяй завядзёнцы шуфляды пісьмовага стала, натрапіў на калектыўны зборнік вершаў "Камуністы сыны камуністаў". Не ўтрымаўся — прачытаў. Не скажу, што знайшоў там узоры высокай паэзіі, але, далібог, скляпана няблага. Прафесійна. І ў аснойным шчыра — верылі людзі! Я і сам верыў, хоць ніколі не пісаў ні пра Леніна, ні пра партыю. І не таму, што не хацеў, ці быў апазіцыйна настроены — проста не ўмеў і ўжо, відаць, ніколі не навучуся пісаць "дацкіх" вершаў, не цікава. Дарэчы, адной з першых кніжак, прачытаных мной самастойна, была кніжка Бонч-Бруевіча "Апавяданні пра Леніна". Помніцца, мяне тады ўразілі не столькі самі апавяданні, хоць напісаны яны, як я сёння разумею, не без таленту, колькі ўразіла, пачутае ад бацькі, які, здаецца, і купіў мне тую кніжачку: Бонч-Бруевічы паходзяць з вёскі Кулігаеўка. Ды ад нашых Бялынкавічаў да той Кулігаеўкі рукой падаць! Так сабе вёсачка...

І таму я не збіраюся нікога ні судзіць, ні апраўдваць, тым больш не збіраюся шукаць кампрамат на "песняроў перабудовы", як гэта любяць рабіць некаторыя мае калегі. Дый суддзі хто? У кожнага часу свае трубадуры. Зрэшты, паэты заўсёды альбо жабравалі, як Гамер, альбо карміліся пры двары, як Дзяржавін. Праўда, далёка не ўсім удавалася "истину царям с улыбкой говорить".

Чытаючы зборнік, я думаў пра іншае. Міжволі ўспаміналася мудрае выслоўе з Эклезіяста: "Наймарнейшая марнасць, пустая марнасць, — усё марнасць". І я ўсё больш і больш умацоўваўся ў сваім даўнім перакананні: паэт павінен думаць пра вечнае.

Маркотны одум перапыніў малодшы сын Лёшка, зайшоўшы ў мой пакойчык з кніжкай народных казак:

— Давай пачытаем, бацька.

— Лёша, — з прытоенай надзеяй звярнуўся я да малога, — ці ведаеш ты, хто такі Ленін?

— Ведаю, — сур'ёзна адказаў Лёшка, — Ленін — гэта я.

— Як гэта... ты?

— Бацька, як ты не разумееш: мая мама Лена, значыць, я — Ленін.

...Ну як тут не ўспомніць Эклезіяста?

## О, Yes!

Калі я часам кажу некаторым сваім знаёмым, што Навум Гальпяровіч ведае дзвесце беларускіх народных песень, яны на мяне пазіраюць з недаверам: маўляў, давай, стары, залівай ды знай меру...

Зрэшты, я іх разумею, дужа ўжо неяк не вяжацца: Навум і дзвесце беларускіх песень!

Аднаго разу ў вузкай і цёплай кампаніі адзін мой калега, пачуўшы разнастайны і змястоўны Навумаў рэпертуар, дык нават пакрыўдзіўся. Зрэшты, і яго я разумею таксама. Як гэта ён, паэт, патомны беларус, сын вёскі, да канца ніводнай песні не ведае, а Навум, бач ты, ведае ажно дзвесце!

— Ой, і хітраван жа гэты Навум, — казаў мне падчас адной з сустрэч "пакрыўджаны", — спецыяльна вывучыў!

— Дык вывучы і ты! — параіў я.

— Выходзіць, што ён ведае нашае лепш, чым мы. Дзіўна неяк...

— А што тут дзіўнага: ён нарадзіўся і вырас тут, сярод нас. І ўвабраў у сябе тое ж, што і мы... Склаў жа датчанін Даль "Толковый словарь живого великорусского языка".

— Дык то ж Даль!..

— Ну, добра, а мой зямляк магілёўскі яўрэй Павел Васільевіч Шэйн! У яго "Беларускіх народных песнях" сабрана больш за тысячу тэкстаў.

— Быццам ты не ведаеш, што ў Шэйна быў свой інтарэс! Шавініст твой Шэйн...

— ???

І яшчэ адзін выпадак.

Пару гадоў таму Беларусь наведаў Міжнародны літаратурны экспрэс "Еўропа — 2000". Дарэчы, бралі ў ім удзел і нашы пісьменнікі Вольга Іпатава, Леанід Дранько-Майсюк і Андрэй Федарэнка.

Было гэта якраз на Купалле. Вялікае свята паэзіі ў Вязынцы, на якое былі запрошаны і замежныя госці, закончылася гасцінным вясёлым застоллем у маладзечанскім Доме рамёстваў. Было там усё. Вядома, былі і песні. Саліраваў Навум. Падчас застолля я выйшаў пад летняе зорнае неба перакурыць з кіраўніком літэкспрэса доктарам філалогіі Томасам Вольфрадам.

— Ну, як вам песні нашага калегі? — спытаўся я ў вядомага вучонага.

— О, yes, — задаволена шчоўкнуў пальцамі Томас, — о, yes!

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

# БЕЛАРУСКАЯ ЭКЗОТЫКА Сяргея ПЛЫТКЕВІЧА

«Ды што казаць пра іншаземцаў, калі нават для многіх беларускіх гараджан заснежаная Белавежская пушча або бясконцыя палескія балоты — таксама сапраўдная экзотыка. Не трэба ехаць на бераг Паўночнага Ледавітага акіяна або ў сібірскую тайгу, каб адначасова ўбачыць тысячы птушак, сустрэць статак аленяў або дзікіх кабаноў. Такія мясціны ёсць і ў нас. Трэба проста іх ведаць і мець цярпенне, каб зрабіць



удалыя кадры," — піша ў прадмове да сапраўды выдатнага фотаальбома Сяргей Плыткевіч.

А ён умее не толькі заўважыць дзівоснасць свету, але й данесці яе да нас. Сяргей Плыткевіч — вядомы беларускі журналіст, які ўдала спалучае ў сабе здольнасці валодання словам і фотакамерай.

Тое, што любіш, трэба ведаць. С.Плыткевіч вывучае родны край з юнацтва. Вывучае з дасведчанасцю прафесіянала, маючы адпаведную адукацыю — да вучобы на факультэце журналістыкі ён скончыў Полацкі лясны тэхнікум. Аўтар "Беларускай экзотыкі" сярод іншых выказаў падзяку і былым аднакурснікам Міхаілу Гілю, Андрэю Шымчуку і Васілю Бамбізу.

Здымкі, змешчаныя ў кнізе, рабіліся ў розных кутках Беларусі. Аднак, па словах самога аўтара, перавага аддавалася мясцінам, найменш закранутым цывілізацыяй — Белавежскай пушчы, Прыпяцкаму, Браслаўскаму, Нарачанскаму нацыянальным паркам, Бярэзінскаму біясфернаму запаведніку.

Шмат якія фотаздымкі роднай прыроды з'яўляюцца сапраўды унікальнымі. Напрыклад, фота дзікіх гусей падчас пералёту, балотнай птушкі вялікі бугай, чорнага бусла, малога падорліка ды шмат іншых. Застаецца толькі здагадвацца, колькі часу і цярпення аўтар паклаў дзеля аднаго (але затое якога!) кадра.

Беларуская экзотыка — не толькі прырода. Да прыкладу, некалькі здымкаў з вёскі Масор у Глыбоцкім раёне. Мясцовы ксёндз стварыў вакол касцёла такую прыгажосць, што людзі прыязджаюць паглядзець на яе за сотні кіламетраў. Вядома, фотамайстар не мог абмінуць такой беларускай мясціны.

Не ўсе з нас могуць пахваліцца, што прытрымліваюцца наканаванага нябёсамі жыццёвага шляху. Спасылаемся на штодзённыя турботы, на недахоп часу, і не робім тое, дзеля чаго прыйшлі ў гэты свет; губім талент. Я па-добраму зайздрошчу Сяргею Плыткевічу. Ён рухаецца наканаваным шляхам. Хаця пэўна ж хацеў бы больш часу аддаваць любімай фотасправе, бо даводзіцца займацца і выдавецкай дзейнасцю. Але й тут ён не збочвае: выдае кнігі і брашуры пра беларускія гарады і вёскі, зноў жа — пра беларускую экзотыку.

Застаецца парадавацца выхаду такога фотаальбома і прыслухацца да слоў аўтара:"А яшчэ трэба ўважліва глядзець па баках і сабе пад ногі. Бо вакол столькі дзівоснага!"

Міхал ТАЛОЧКА









"Беларуская экзотыка". Фотаальбом. Фота і тэкст Сяргея Плыткевіча. Мн.,выд-ва "Рыфтур", на беларускай і англійскай мовах, 2002 г.









# ПРАМОЎЦА, РАЗМОЎЦА, ВЫСТУПОЎЦА...

***На працягу дзесяцігоддзяў руская мова шырока ўжываецца (фактычна — дамінуе) ва ўсіх сферах жыццядзейнасці беларускага народа. У цесным кантакце з ёю функцыянуе і развіваецца спрадвечная мова карэннага насельніцтва Беларусі. Зразумела таму, што вывучаць беларускамоўную маўленчую практыку, рабіць назіранні і вывады, а ў выніку – даваць парады ў аспекце культуры мовы можна толькі з улікам такой сітуацыі.***

Стала амаль аксіёмай, што дзеепрыметнікі з суфіксамі –уч-, *-юч-, -ач-, -яч-, -ем-, -ім-, -ўш-, -ш-* не характэрныя для беларускай мовы. Разам з тым сярод лінгвістаў мае пэўнае пашырэнне думка, што ў некаторых стылях (афіцыйным, навуковым, публіцыстычным) яны дапускаюцца.

Сапраўды, названыя формы дзеяслова сустракаюцца ў кніжных тэкстах. Але прычынай таму не столькі спецыфіка стыляў, як абставіны, умовы іх (тэкстаў) стварэння. Вядома, што тэксты афіцыйна-справавога, публіцыстычнага і навуковага стыляў сваім узнікненнем звязаны з рускай мовай, паўстаюць пад яе разнастайным уздзеяннем: ці гэта непасрэдныя пераклады з рускай, ці гэта выкарыстанне ў той ці іншай меры яе гатовых моўнастылістычных сродкаў, калі тэкст адразу пішацца па-беларуску. Тут дарэчы згадаць аўтарытэтнае сведчанне: "Пераклады газетных артыкулаў і матэрыялаў радыё даручаюцца машыністкам і малаграматным людзям. Адкуль жа тут узяцца добрай мове? Вось і пішуць нашы газеты і часопісы: "прадстаячы", "маючыйся", ""кіруемы" і іншыя страхападобныя словы" (З ліста Якуба Коласа да ЦК КПБ. 1956 г.).

На жаль, гэтыя словы, напісаныя амаль паўстагоддзя назад, застаюцца ў сваёй аснове актуальнымі і для нашых дзён. Суцяшае, аднак, тое, што разуменне сапраўднага месца і ролі дзеепрыметнікаў у беларускай мове знаходзіць усё большую практычную рэалізацыю:

1. У перакладных акадэмічных слоўніках 80—90-х гг. сістэмна падаецца пераклад рускіх формаў дзеяслова з суфіксамі *–ущ-, -ющ-, -ащ-, -ящ-, -ем, -им-* апісальнымі зваротамі, прыметнікамі, назоўнікамі. **Напрыклад:** Ведущий 1. прич. які (што) вядзе; 2. прил. вядучы. **Вдыхаемый.** 1. прич. які (што) удыхаецца; 2. прил. удыхальны. **Грядущее** *ср* сущ. будучыня.

2. У падручніках для школ і ВНУ паказваюцца сродкі замены неўласцівых беларускай мове формаў дзеяслова.

3. У працэсе моўных зносін апрабоўваюцца і памнажаюцца разнастайныя адпаведнікі непрымальных формаў дзеепрыметнікаў.

Засяродзім увагу на некаторых дзеепрыметніках рускай мовы і іх беларускіх эквівалентах.

Дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі *–ущ-, -ющ-, -ащ-, -ящ-* могуць страчваць дзеяслоўныя катэгорыі і субстантывавацца — пераходзіць у назоўнікі: *выступающий, говорящий, митингующий, отдыхающий, разводящий...* Пры перакладзе на беларускую мову такія вытворы, асабліва на першым часе іх існавання, звычайна калькуюцца: *выступаючы, гаворачы, мітынгуючы, адпачываючы, разводзячы.*

Аднак на беларускай моўнай глебе згаданыя формы трывала не замацоўваюцца. У назоўным склоне яны аманімічныя дзеепрыслоўям ( *працуючы, выконваючы* — паводле формы і дзеепрыметнікі, і дзеепрыслоўі), ва ўскосных склонах павялічваецца "не ўласцівая граматычнаму ладу беларускай мовы структурная складанасць іх *[дзеепрыметнікаў]*" (Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Марфалогія. Мн., 1957, с. 211). Параўнаем: *працуючы, выконваючы — працуючага, выконваючага — працуючаму, выконваючаму* і г.д.

Дзеепрыметнікі, што выконваюць функцыю назоўнікаў, раней ці пазней могуць замяняцца "чыстымі" назоўнікамі, якія ўтвараюцца з дапамогай розных суфіксаў, найперш *–ец /-эц, -ац/, -ц-а, -чык /-шчык/, -нік, -льнік.*

Ужо ў "Беларуска-расійскім слоўніку" (Мн., 1926) М. Байкова і С. Некрашэвіча змешчаны, да прыкладу, назоўнікі *загадчык, загадчыца, кіраўнік спраў,* якімі перакладаюцца рускія тэрміны ***заведующий, заведующая, управляющий делами.*** Падаюцца тут і іншыя назоўнікі, што абазначаюць асоб паводле іх дзейнняў ці заняткаў, у тым ліку *прамоўца, размоўца.*

Маючы на ўвазе, што некаторым рускім дзеепрыметнікам адпавядаюць беларускія назоўнікі, правамерна і мэтазгодна сказ "Выступил исполняющий обязанности заведующего отделением" перакласці: "Выступіў выканаўца абавязкаў загадчыка аддзялення". Ці трэба тлумачыць, наколькі выйграе такі натуральны пераклад перад мажлівым механічным, памарфемным "перакладам" рускіх дзеепрыметнікаў: "Выступіў выконваючы абавязкі загадваючага аддзяленнем".

Усвядомленая патрэба ўнікаць неўласцівых беларускай мове формаў дзеепрыметніка актывізавала выкарыстанне ў сучасных мастацкіх і публіцыстычных тэкстах новаўтворных і вернутых да ўжытку даўніх назоўнікаў, пераважна аддзеяслоўных, з суфіксамі *–ец, -ц-а*. Гэтыя словы збольшага зразумелыя самі па сабе, таму падаём іх без кантэксту: ад'язджанец, бязверац, водца, вызнаўца, выраканец, вырачэнец, выязджанец, даставанец, дбайца, завітанец, запраданец, зняверца, моўца, накіроўца, непакорца, непрыманец, непрымірэнец, нехаджанец, няверца, пабыванец, павяртанец, падтрымоўца, пажаданец, пацярпелец, прапаноўца, пратэстоўца, прытворац, сумніўца і інш.

Шмат якія з падобных назоўнікаў маюць варыянты: *ападчыванец — адпачывальнік, адпачыншчык, даганялец — даганяты, даўца — давальнік, мітынговец — мітынгоўшчык, мітынгант* і інш. Пацясненне аднакаранёвых слоў вытворамі з суфіксамі *–ец, -ц-а* сведчыць, што гэтыя словаўтваральныя элементы ўспрымаюцца карыстальнікамі беларускай мовы як прадуктыўныя.

Частка прыведзеных вышэй назоўнікаў застаецца там, дзе яны ўзніклі — у арсенале моўна-выяўленчых сродкаў таго ці іншага аўтара. Некаторыя ж выйшлі ці выходзяць у шырокі ўжытак. Як прыклад варта назваць слова *выступоўца.* У літаратурную мову яно ішло паралельна з аднакаранёвікамі *выступовец, выступальнік, выступальшчык, выступанец.* Сёння можна канстатаваць, што варыянт *выступоўца* знаходзіць найбольшую падтрымку.

Выяўлены таксама назоўнікі гэтага словаўтваральнага тыпу *наступоўца* (побач з *наступальнік), нападоўца* (побач з *нападнік, нападчык*):

...Той, ужо раней прыгаданы "максім" таксама **наступоўцаў** не пагладзіў (К. Акула). ...Калі б на мастку не паказалася група моладзі і не спалохала **нападоўцу,** наўрад ці выбралася [б] я ў цяжкім зімовым адзенні з тых гранітных берагоў (В. Іпатава).

Такім чынам, мова параджае словы: *нападаць — нападоўца, наступаць — наступоўца, выступаць — выступоўца...*

Гадоў пад дваццаць таму ў маім артыкуле напісалася слова *паступленец*: "І са старонак апавядання, і з уласнага вопыту чытача **паступленец,** ён жа абітурыент, сапраўды ўспрымаецца як "няшчасны чалавек, які выклікае спачуванне, жаль і спагаду" ("ЛіМ" 12.04.1985).

Не заўважана, каб гэтае слова падхапілі іншыя аўтары. А ці можа ўзнікнуць і ўжывацца вытвор *паступоўца?* Даць адказ пад сілу толькі моўнай практыцы.

Думаецца, на меншай інтэнсіўнасці пошуку эквівалента рускага назоўніка *поступающий* (параўнальна з *выступающий*) адбілася пашыранне ўжытку сіноніма *абітурыент.*

Ідзе далейшае асваенне (лінгвістычнае афармленне) тэрміна *говорящий* ("той, хто гаворыць"). Цяперашняя калька *гаворачы* супярэчыць актуальнай тэндэнцыі да пазбягання такіх дзеепрыметнікавых формаў. Як адпаведнік рускага субстантываванага дзеепрыметніка *говорящий* усё часцей ужываецца слова *размоўца.* Напрыклад: "Усе тры словы — *вынаходнік, вынаходца, вынаходніца* — могуць свабодна выбірацца **размоўцам** незалежна ад моўнай сітуацыі" ("Роднае слова", 2000, № 4).

Такая "перакваліфікацыя" слова **размоўца** стала мажлівай дзякуючы таму, што традыцыйнае яго значэнне (адпаведнае рускаму "собеседник") цяпер звычайна перадаецца назоўнікамі *суразмоўца, суразмоўнік.*

Трэба адзначыць, што на ролю адпаведніка рускага *говорящий* прэтэндуюць таксама словы *моўца, моўнік, гутарнік* і інш.

Працэс пошуку натуральнага беларускага адпаведніка захапіў слова *говорящий* і ў тэрміналагічным спалучэнні *говорящее лицо.* Разгледзім прыклад. У паведамленні пра навуковую канферэнцыю ў БДУ В. Рагойша назваў у ліку іншых дакладаў і такі: "Назвы *маўленчай асобы* ў слоўніках М. Байкова і С. Некрашэвіча" ("ЛіМ" 14.12.2001).

Словазлучэнне *маўленчая асоба* адразу кінулася ў вочы, па-першае, сваёй крыху нязвыклацю, па-другое — як даўно чаканае.

Тэрмін *маўленчая асоба,* які наўрад ці быў бы магчымы некалькі дзесяцігоддзяў назад, сёння ўспрымаецца без цяжкасці. І на гэта ёсць падставы. У беларускай літаратурнай мове усталяваліся словы *маўленне, маўленчы,* пашырыўся ва ўжытку дзеяслоў *мовіць* у розных формах (*мовім, мовіў, мовіла* і інш.).

*Маўленчая асоба* — значыць: асоба, якая мовіць ("гаворыць"). Сэнсава і будовай словазлучэнне "праходзіць" у беларускую літаратурную мову. Згадаем падобнае, ужо замацаванае: *аздараўленчы цэнтр, аднаўленчая праца, вызваленчая вайна.*

Уражанне ад новага тэрміна было такое моцнае, што я адразу пачаў быў пісаць водгук на яго з'яўленне. Ды ў пару спахапіўся: трэба праверыць назву даклада па яго друкаваным тэксце. Але на той час матэрыялы канферэнцыі (зборнік "Пісьменнік — мова — стыль", Мн., 2002) яшчэ не былі апублікаваныя. Пазней я змог пазнаёміцца з імі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. І, як выявілася, перасцярога не была дарэмнай: згадваны даклад меў іншы загаловак: "Назвы *гаворачай асобы* ў двухмоўных слоўніках Мікалая Байкова і Сцяпана Некрашэвіча". Так, было расчараванне, але не толькі яно: апошні варыянт назвы даклада пацвярджаў, што выраз *маўленчая асоба* адпавядае рускаму *говорящее лицо.*

Дый гэтыя выяўленыя разначытанні, падкрэслім, не адмаўляюць , не касуюць факта ўзнікнення новай тэрміналагічнай адзінкі, якая прэтэндуе на ўваход у літаратурную мову.

Устрымаемся ад традыцыйнага ў такіх выпадках звароту-заклiку да чытача...

**Алесь КАЎРУС**

**ВІНШУЕМ**

# ФРАНЦУЗСКІ ОРДЭН — МУЗЫКАНТУ

***Не паспелі мы паведаміць пра чарговыя "Франка-беларускія музычныя сустрэчы" з удзелам добрых нашых сяброў — віяланчэліста Жэрома Перно ды піяніста Жэрома Дзюкро, як па мастацкім асяроддзі прабегла хваля лёгкай сенсацыі. Заўсёднаму чынніку гэтых міжнародных стасункаў, заслужанаму артысту Беларусі, стваральніку знанага Камернага аркестра Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, выкладчыку класа віяланчэлі Уладзіміру Перліну ўручылі унікальную ўзнагароду.***

Аказалася, такой высокай узнагароды Францыі не ганаравалі дагэтуль ніводнага грамадзяніна нашай дзяржавы. Расказваюць, што яшчэ Напалеон заснаваў знакі адрознення ордэна "Акадэмічныя пальмы" для заахвочвання чальцоў універсітэта. У сярэдзіне 19 ст. гэту ўзнагароду распаўсюдзілі на руплiўцаў нівы асветніцтва. Амаль праз стагоддзе ў "Акадэмічных пальмах" вызначыліся ступені: кавалер, рыцар, камандор, і ўзнагароджваць гэтым ордэнам пачалі не толькі французаў, якія жывуць у замежжы, а і тых іншаземцаў, што зрабілі значны ўнёсак у распаўсюджванне французскай культуры.



Кавалер "Акадэмічных пальмаў" Уладзімір Перлін атрымаў ордэн за творчы, педагагічны, арганізатарскі талент і працу, дзякуючы якім беларуска-французскія музычныя стасункі плённа развіваюцца і набываюць перспектыву.

**Н. К.**

